зьмест:

Ян Пятроўскі

# ТАРАС САЙКА

**Ініцыятар**
**і**

**галоўны фінансавы ахвярадаўца**
**на рэч перакладу і друку Бібліі**
**на літоўскай мове**

1995

---

Яна і Аліцыі Пятроўскіх
Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд,
Праваўмоцнены

# TARAS SAJKA

Initiator
of
Translation and Publication
of
The Bible in Greatlitvanian

by
John Piotrowski



Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.
1716 N.E. 7th Terrace
Gainesville, Florida 32609-3751

Ён перажывае зьявішча адсутнасьці беларускае бібліі сярод Беларусаў, тады як усе іншыя народы, большыя ці меншыя, маюць яе. Як гэта можа быць? - пытае ён самога сябе. Цяперака ён жыве гэтым пытаньнем і прыходзіць да перакана户ня, што беларуская біблія мусіць быць і будзе!
Гэта было аснаўное, чым Тарас Сайка ў гэтым часе жыў і з гэтым аснаўным кіруецца ў Амэрыку.

C E R T I F I C A T E   O F   O R D I N A T I O N

This certifies that our Brother Taras Sajka, born May 1, 1906, in Greatlitvania (Byelorussia), was publicly set apart to the work of the gospel ministry, with prayer and the laying on of my hands, by the authority of the Baptist Church of Malkovichi, in Greatlitvania. May 9, 1943, according to the usages of our denomination.

Rüschlikon, November 24, 1961

Jan Pancewicz
Pastor of Poznan Baptist
Church, Poland

I hereby certify that Pastor Jan Pancewicz has signed this certificate



J.D. Hughey
President

# БІБЛІЯ І ДРУК

некаторыя мамэнты з гісторыі перакладу біблії на беларускую мову і друку яе.

Гутарка пра біблію на беларускай мове - пераклад яе і выданьне друкам у XX стагодзьдзі - можа прывесьці да гістарычнае тэмы: часткавыя пераклады і спробы друку ў нашай мінуўшчыне.

На тэмат узьнікаваньня мастацтва друку ў Эўропе я чуў ад пастара і прафэсара др. Эміля Елінка /чэха/ у нашай школе ў Клярысэве пад Варшаваю наступнае апавяданьне, якое тут прыводжу толькі ў вагульных кантурах.

Жыў у XIV стагодзьдзі ў месьце Маінц, у Нямеччыне, адзін юнак, спакрэўнены пасрэдна ці беспасрэдна з сям'ёю Ёганна Гутэнбэрґа. Хлапец, як гэта і натуральным ёсьць, любіў адну дзяўчыну. Аднойчы, у дню яе нарадзінаў, юнак адведаў яе і падараваў ёй гасьцінец - на куску сьвежага дрэва ім самым выразанае імя дзяўчыны. Аддаючы гасьцінец дзяўчыне, ён спасьцярог, што на паперы, у якую разьба была закручанаю, адбіліся літары імя дзяўчыны, але ўсе літары былі наадварот. Вярнуўшыся дадому, хлапец пачаў пераглядаць адціск і пры гэтым прыйшоў да высnаву, што, калі-б выразаць літары слова наадварт, тады на паперы яны выйшлі-б нармальна для чытаньня. Згэтуль цяперака ўзьнікае ідэя вырэзваньня на дрэве літараў наадварот, а пасьля выліваньня паасобных рухомых мэталёвых літараў на адным з канцоў адумыснага тронку. Падобныя літары - гэта тэхнічна аснаўныя элемэнты ў працэсе друку.

Прынцып друку, як гэткага, быў ведамым на сьвеце здавен-даўна. Кітайцы, для прыкладу, далёка перад нашаю эраю ўжывалі ўладжаньні, абапертыя на прынцыпе ведамага нам сягоньня друку, як пячаці, персьцені, сыгнэты і адумысныя прылады для абазначаньня гліняных вырабаў. Яны нават ведалі як друкаваць кніжкі на паперы, якую яны вынайшлі ў 2-ім стагодзьдзі, але з прычыны знакаў іхнага альфабэту лікам у сярэднім каля 40.000, уся справа камплікавалася і хутка была забытаю. Гэтаксама рухомыя літары ўжываліся ўжо ў Корэі поў стагодзьдзя перад пачаткам друку ў Нямеччыне. Ёсьць абаснаваньне думаць, што,

пачатае друкарства ў Нямеччыне ўзьнікла самастойна без уплыву друку ў Корэі. У старажытнай Грэцыі, як і ў Рыме гэтаксама быў ведамы прынцып адцісканьня знакаў, але праўдзівы расьцьвет друкарскага мастацтва пачынаецца зь першае паловы XV стагодзьдзя ў Заходняй Эўропе, у вапрычонасьці, Нямеччыне, у старажытным месьце, бо налічваючым болей 2000 гадоў свайго існаваньня, Маінцу над Рэйнам. Згэтуль мастацтва друку разыходзіцца ўва ўсе напрамкі сьвету.

У Англіі зьявілася яно ў 1476 годзе, у Новым сьеце - 1539. У той частцы Амэрыкі, ведамай нам сягоньня, як Злучаныя Штаты, друкарства зьявілася сто гадоў пазьней, бо ў 1638 годзе.

Кнігі друкаваныя ў Маінцу адзначаліся асаблівым майстэрствам, зь якіх адна, ведамая як Біблія Ґутэнбэрґа, насіла знямя выняткавае друкарскае прыгожасьці і сталася наўзорам для лічных адумыслоўцаў у гэтым мастацтве.

Калі гаворым мы пра пераклад біблііі наагул, варта прывесьці на ўспамін пераклад Сэптуаґінты.

Сэптуаґінта - першы на сьвеце і найболей слаўны пераклад бібліі Старога Запавету на аляксандрыйскую грэцкую мову ў гадох паміж 250 - 100 перад нашаю эраю; паводля сівога пераказу, пераклад быў выканаены для Птолемэя Філядэльфійскага на працягу 72-х дзён 72-ма перакладчыкамі - згэльленізаванымі жыдамі. /З цыфраў 72 пераклад выводзіць свой назоў/.

Пачатак перакладу бібліі на беларускую мову і друк таго, што́ пераклалася, пачаўся ў нас прыблізна 500 гадоў таму.

Ён пачаўся тады, калі, пазнаючы́ тое, чым Заходняя Эўропа хвалявалася ў пары́ Рэнэсансу і Рэфармацыі, чалавек родам з Полацку і з прозьвішчам Скарына, займеў думку перакладу зборніка кнігаў званага бібліяю, на рускую /чытай літоўскую/ мову.

І ён пачаў. Першая кніга, Псалтыр, як частка бібліі, выходзіць на сьвет у 1517 годзе.

У гэтым часе Скарына знаходзіўся ў 32 годзе свайго жыцьця. Гэта юнацкі і бурлівы век бадай што кожнага чалавека. Скарына думкаю пранікае ў надыходзячае стагодзьдзе і жывіцца паняцьцем Новanараджэньня і сарваньня са старым спосабам думаньня. Навука і поступ, пошукі і спраўджваньне, што выражалася ў яго канцэптам Рэнэсансу. Усё гэта пацягвала яго за сабою. Школа і навука, з аднаго боку, з другога - царква і заняпад яе. У змаганьні моладзь заўсёды

свомаю ёсьць выбару паміж дабром і злом, паміж ведаю і духоваю цемраю; ягоная ўвага засяроджваецца ў напрамку нечага новага, што зь нямецкага называецца "друкам". Дзе ён стыкаецца з ідэяю друку, дзе і ў каго ён бачыць і пазнае друкарскую тэхніку - усё гэта астаецца яшчэ для нас тайніцаю. Рэлігія тады стаіць у цэнтры ўвагі чалавека, а зь ёю і Сьвятое Пісаньне. І так ўзьнікае ў яго відзежа Рускае біблії, перакладзенае і выдрукаванае ім, Доктарам Францішкам Скарынам са слаўнага места Полацку...

І Скарына, даслоўна, закасвае рукавы і бярэцца за працу, памеру якое, здаецца і коштаў, ён сам дакладна не прадбачыў і гэта тады, калі ён стаяў сам адзін.

Гэтак у 1517 годзе выходзіць з-пад прэсу першая ім выдрукаваная кніга. Пазьней пераклаў Скарына іншыя кнігі. На канцы доўгагодняе і ўпорыстае працы выявілася страшная праўда, у атмасфэры якое зьнеахвочаны Скарына супыняе пераклады і друк.

Ґутэнбэрґ у Маінцу працаваў ў болей шчасьлівых абставінах. Ён знайшоў многіх сваіх багатых людзей, каторыя падтрымлівалі яго духова як і матэрыяльна. Затым ён знайшоўся ў стане працягваць сваю працу стала і сыстэматэчна наперад, аж пакуль цэлая біблія не пабачыла сьвет Божы.

Гэтак Скарына астаецца адзін. Тыя, каторыя яшчэ хочуць памагчы яму, стаюцца болей перашкодаю, чымся помаччу; пачынаюцца задоўжаньні, сваркі і суды. Усё гэта зьнеахвачвае і абясьсільвае Скарыну. Ён пакідае сваю Бацькаўшчыну і памірае далёка ад Роднае Зямлі і хутка стаецца забытым сваім народам.

Тое, што я падазраваў адносна прысутнасьці сярод нас "страшнае праўды", знайшоў аднойчы цікавае пацьверджаньне ў Язэпа Семяжона, пайманна, у ягоным "Пасьляслоўі перакладчыка" да перакладзенае ім "Песьні пра зубра".

Пасьля ўводу у першым абзацы думкі, што "Творы тых ці іншых [беларускіх] пісьменьнікаў пісаліся з розных прычынаў на не роднай мове", Семяжон бачыць падобную аналёгію і кажа:

"Але ўсё гэта шкодна для нашага народу. Беларусы праславілі суседнія народы, а былі адкінутыя роднай гісторыяй літаратуры. Як тут ня ўспомніць А.С. Пушкіна, што мы бываем часам "и ленивы и нелюбопытны". Зразумела, што прыводзячы пушкінскую фразу, Семяжон чыніць алюзыю пад адрасам беларускіх людзей пяра і беларускае інтэлігэнцыі...

Вельмі магчыма, што прысутнасьць між намі "неза-

цікаўленьня" да рашаючых праяваў у нашым палітычна-духовым жыцьці, якая вядзе да апатыі і чыніць няґеглымі і абыякасна бачыць як нішчыцца наша традыцыя і як тое, што трэба ганіць, уздымаецца на хвалях выдуманае хвалы. "Усё гэта шкодна для нашага народу".

Ніхто нічым ня цікавіцца, г. зн., ніхто нічым ня цікавіцца глыбей. Адсутнасьць зацікаўленьня ў людзей. Мала хто нават здагадваецца, што існуе сьвет абстрактнае думкі, сьвет дыскусыі і здаровага крытыцызму, дзе рэчы ставяцца пад знак запытаньня, адсутнічае сьвет альтэрнатывы, якая суґэруе, што няма гэтакае рэчы, якую ня можна вырашыць у пажаданым кірунку. Трэба быць сьведамым, трэба верыць у самога сябе, верыць у дабро і працаваць не пакладаючы рук. Ня трэба плакаць і наракаць, на некага і зьнеахвочвацца, але наўсуперак усяму і ўсім змагацца і змагацца.

## Беларуская біблія ў нашым стагодзьдзі

Пра беларускую біблію гаварылася многа з раньняе пары нашага стагодзьдзя.

Першая чутка адносіцца да таго дакумэнту, які калісьці пераказаў мне Гальляш Ляўковіч. Тут прадстаўнікі беларускае супольнасьці, зьвяртаючыся з просьбаю да амэрыканскае місыі, успамінаюць помач матэрыяльную і духовую, і ў вапрычонасьці называюць патрэбу перакладу бібліі на беларускую мову.

Калі ў 1931 годзе выходзіць з друку Новы Запавет з псальмамі на беларускай мове, тады пачынаецца многаслоўе пра беларускую біблію. Выступаюць імёны: Дзекуць-Малей, Антон Луцкевіч і іншыя, зь імёнамі беларускіх каталіцкіх ксяндзоў, каторыя ўжо раней па-свойму перакладвалі для лёкальнага ўжываньня, як яны называлі, "Ванэлю".

Пасьля гарматняга гулу Другое сусьветнае вайны, цяперака ўжо на эміграцыі, зноў узьняліся галасы ў справе патрэбы "божага слова" на беларускай мове, і ў вапрычонасьці пра перавыданьня Новага Запавету з псальмамі з 1931 году.

Што да пагляду, які вяжацца з гэтым выданьнем, дык ён, як неба і зямля, розьніцца па двух баках - беларускага цяперака з дамаганьнем і Брытанскага і Замежнага Біблійнага Таварыства, якое ў перадваеннай Польшы займела дасьведчаньне. З гэтае прычыны ў Лёндане і слухаць не хацелі.

Справа кончылася тым, што пачалі шукаць добрага спонсара, які пакрыў-бы кошты выданьня /ня ведама, цяперашнія толькі ці і ўчарашнія/. І няведамым асталося, хто гэтым спонсарам быў. Так ці інакш Новы Запавет выдрукавана.

Здаволіўшыся гэтым выданьнем Новага Запавету з псальмамі, беларусы ўздымаюць ідэю перакладу цэласьці біблii.

Сярод ахвочых узяцца за пераклад зьяўлюцца новыя імёны: Пастар Даніла Ясько, Др. Вітаўт Тумаш, тады Пастар Ян Пятроўскі, духоўны Уладыслаў Рыжы-Рыскі.

Усе ўспомнутыя ўзяліся зь вялікім энтузыязмам за працу і пачалі перакладаць паасобныя кнігі хаатычна і без каардынацыі. Фактычна, некаторыя зь іх аддавалі свой час і свае здольнасьці не затым, што яны верылі ў нешта, але пераважна, і з таго факту што яны ўсё роўна ня мелі што рабіць. А калі пасьля пару гадоў, шмат не зрабіўшы з перакладаў, пачалі разьяжджацца на розныя кантынэнты і, спатыкаючы тут іншыя эканамічныя ўмовы быту, пра пераклады зусім забылі.

І калі ў 1970 годзе выходзіць з-пад прэсу беларускі "Новы закон" у перакладзе Яна Станкевіча, а ў 1973 годзе "Сьвятая Бібля" ў тым-жа перакладзе, народ загаварыў пра якасьць перакладу з успамінам тых самых імёнаў, як калішніх перакладчыкаў з даданьнем двух новых - Яна станкевіча і Майсея Гітліна, забываючыся пра адно самае важнае імя ў гэтым кантэксьце - імя Тараса Сайкі.

## Тарас Сайка

Каб сказаць хто ёсьць Тарас Сайка, трэба прывесьці на ўспамін натуральнае зьявішча, якое назіраем у натуры.

Паяўляецца раптам чалавек з зацікаўленьнем і здольнасьцямі кіраваньня палкамі жаўнераў; іншы праяўляе здольнасьці арганізацыйныя; яшчэ іншы выходзіць рэч, якая стаецца назаўсёды добраслаўленьнем для роду людзкага і імя ягонае ўспамінаецца шматлікімі пакаленьнямі...

Гаспадарыня Зінаіда Сайка пра свайго мужа, між іншым, кажа:

"Тарас быў чалавекам працавітым, каторы любіў Бога і свой Беларускі Народ. Усё, што ён рабіў - рабіў шчыра і пры кажнай нагодзе і ў кажным зграмаджэньні ці пры сустрэчы асобнага чалавека, даваў гэ-

таму сьведчаньне".

Тарас Сайка радзіўся ў 1906 годзе і ладную частку свайго жыцьця пражыў недалёка места Пінску, у станіцы Мальковічы ў сяле Ліпск. Тут ён падрастаў і працаваў на ральлі. Пасьля сьмерці бацькоў працаваў самастойна.

Гаспадарка ягоная ня была вялікаю, але быў ён чалавекам працавітым і адзначваўся заўсёды энэргіяю. Ён, як і ўсе жыхары вёскі, быў праваслаўным, але пра Бога многа ня ведаў.

Аднойчы нехта падараваў яму Новы Запавет у расейскай мове і Тарас любіў чытаць яго. Калі Тарас падрос да пабаровага веку, ён быў паклікаваны на чынную службу ў польскую армію. Ідучы ў войска, малады Тарас забірае з сабою і Новы Запавет і ў вольным часе між заняткамі чытае яго.

Вярнуўшыся з войска, у між часе Тарас даведаўся, што ў сяле ёсьць некалькі чалавек веруючых у Бога, каторыя зьбіраюцца на малітву кажную сыботу. Тарас гэтаксама далучыўся да іх. Хутка пасьля гэтага Тарас прыймае паводля веры сьвятое хрышчэньне. З гэтае пары працуе разам з групаю. Неспасьцярожна група людзей пабольшвалася, а ня маючы свае хоць-бы малое цэркаўкі, зьбіраліся ў розных хатах. І калі група пабольшвалася, адбываньне маліцьвеных зграмаджэньняў ставалася што раз болей і болей нявыгадным.

І цяперака, Тарас Сайка, як найболей энэргічны і прадпрыймальны, аднойчы на зграмаджэньні выступіў і сказаў:

– Браты, нам трэба пабудаваць свой маліцьвены дом.

– Ведама, – пачуліся галасы, – дом гэтакі прыдаўся-б нам, але мы ня маем за што пабудаваць.

Тут Тарас сказаў:

– Я маю дзерава, падрыхтаванае на хату, я яго аддам на сьвятую справу і да гэтага пляц зямлі, і трэба нам узяцца за працу.

Чуючы, што гаворыць Сайка, людзі не маглі даць веры гэтаму, бо ў той час гэтакі матэрыял пад дом і зямля былі дарагацэннасьцю. Гэтак Тарас нічога не дабіўся і зграмаджэньне разыйшлося.

– Але Тарас Сайка, – кажа далей гаспадарыня Зінаіда, – заўсёды быў дзейным і быў пераканаты, што ён павінен паступаць у сузгоднасьці са сваім сумленьнем і сваею вераю. І ён пачаў.

Гэтак, Тарас пачаў будаваць сам адзін. Да працы ён наняў суседа і, ня маючы грошай, заплаціў кароваю, і сусед паводля ўмовы, памагаў яму.

Калі праца даходзіла да свайго канца, далучыўся памагаць ім адзін малады чалавек зь імем Алёша Шуляк. У трох яны вывелі сьцены і накрылі дахам. Далей ня было за што кончыць.

І тут зноў Тарас Сайка праяўляе сваю ініцыятыву. Ён упадае на думку, што ён павінен пісаць да сваіх расьцярушаных па сьвеце братоў.

У першую чаргу ён піша да Эвангельскіх, як тады яны сябе называлі, Хрысьціян Баптыстых. Але "гэтыя мала цікавіліся беднымі мужыкамі ды яшчэ бяз польскае мовы. У Польшчы сядзіба іхная знаходзілася ў Варшаве, на вуліцы Пулаўскай 37. Згэтуль не атрымаў ён ніякае помачы.

Пасьля гэтага Тарас зьвяртаецца да Місыі "Свет на Востоке." Гэтыя адгукнуліся пазытыўна і пры іхнай фінансавай помачы дом малітвы быў выкананы.

- Было, - як Зінаіда кажа, - шмат народу і яшчэ болей радасьці.*)

Але хутка выявілася, што людзі і дом - гэта добра, але гэта яшчэ ня ўсё. Патрэбны добры і талковы прапаведнік. Але скуль яго ўзяць! Энэргічны наш Тарас і тут знайшоў разьвязку. Ён упаў на думку купіць добры патэфон "з харошымі плыткамі". Харошыя плыткі - запіс пропаведзяў найлепшых у тым часе прапаведнікаў, як Праханаў, Марцінкоўскі і Сарапік. Першы зь іх адзначаўся сваею вышэйшаю адукацыяю наагул. Ня было гэтакага прапаведніка перад ім як і пасьля яго. У ім зьбегліся: навука, вера і слова, гэтак прозаю як і песьняю. Ён быў адзіным у сваім родзе духовым прадстаўніком і кіраўніком усяго нэопротэстантызму у славянскім сьвеце і далёка за межамі яго.

Апрача запісанага слова пачалі надыходзіць песьні ў выкананьні вялікіх хораў, складзеных з праўдзівых мастакоў эвангельскае мілагучнасьці.

Цяперака што раз болей і болей пачало прыходзіць людзей - і старых, і маладых зь дзяцьмі. Сярод гэтых людзей знайшліся прыгожыя і сільныя галасы, знайшліся і здольныя музыкі. І ўсе гэтыя людзі, уся божая царква тварыла сабою адзін вялікі голас хвалы і падзякі Госпаду Богу.

Тарас знайшоў і запрасіў некага чалавека. Чалавек гэты зарганізаваў хор. Затым, што знайшліся добрыя музыканты, Тарас прадаў яшчэ адну карову, а за атрыманыя грошы купіў гітару і мандаліну. Гэтак духовае жыцьцё лучылася зь мілагучнай мэлёдыяю.

Гісторыя пачаткаў царквы ў Ліпску мае адну характэрную рысу, якая ілюструе нам, калі царква /ці ар-



ЗБОР ЕВАНГЕЛЬСКІХ ХРЫСЬЦІЯН
У ЛІПСКУ





Гэтулькі выканаў Тарас Сайка
на свой кошт.



Выканчаны дом пры дапамозе
"Свет на Востоке".

ганізацыя/ стаецца моцнаю, а калі рахітычнаю. Моцнаю яна стаецца, калі ўзьнікае сама сабою - у выніку натуральнае пасьлядоўнасьці. I наадварот, калі выступае камандзір, дый да гэтага няўдольны, рэч зьіначвае свой характар.

## Прэсбітэрыянства

Старшынём царквы ў Ліпску, без галасаваньня і вызначэньня, ад заранья яе быў нехта Макарэвіч. Быў ён чэсным і веруючым чалавекам, але вельмі спакойны. Калі здаралася што-небудзь правесьці ў адміністрацыйных урадавых установах, палагоджваў заўсёды Тарас Сайка.

Царква далей расла і ў мацоўвалася ў Богу. I слава яе пашыралася далёка па-за межы сяла.

Цяперака ўсе іншыя цэркви і асабліва іхныя прэсбіцеры пачалі цікавіцца, што там такое робіцца ў Ліпску.

Сярод адведваючых старшынь прыбыў аднойчы і Ян Пануцэвіч, тады пастар у Варшаве на Вольскай вуліцы. Гэты, калі даведаўся пра гісторыю царквы ў Ліпску і цяперака, нібы ў ролі візытатара, гэтак сказаў:

- Калі брат Сайка знайшоўся ў стане гэтак шмат зрабіць для людзей і, перад усім для хвалы Божае, дык чаму ён ня можа быць старшынём гэтае царквы?

I з гэтае пары гэтак і сталася. Старшынём царквы, пры сузгоднасьці прысутных, стаўся Тарас Сайка.

Усё гэта сталася коратка перад Другою сусьветнаю вайною і дзейнасьць царквы ўвайшла ў бег самое вайны.

У часе вайны маса народу павярнулася ў бок свае беларускае царквы, хрысьціліся масава. Ведамы факт, што толькі ў вадным Слуцку пры Збаравым мосьце аднойчы хрысьцілася болей як 500 чалавек.

Надыйшоў год 1944.

Ян Пануцэвіч запазнаў Тараса з прыгожаю Зінаю і хутка пажаніў іх. Бяручы пад увагу ўсе здольнасьці Тараса і асягненьні ў царкоўнай дзейнасьці, кіруе ён яго ў духоўную сэмінарыю ў Нямечыне, у невялікім месьце Відэнэст.

Аднак ваенныя падзеі далей разьвіваюцца ў непамысным для Нямеччыны напрамку. З гэтае прычыны школа ў гэтым часе не працавала. Усіх, хто толькі фізычна прыдатным быў да працы, паслана на хвабрыку.

Пасьля заканчэньня ваенных дзеяньняў Тарас астаецца якісьці час у Нямеччыне. У між часе біблійныя курсы распачалі сваю дзейнасьць і Тарас аддаецца

вывучаньню біблії; пазнае гэтаксама і людзей свайго новага паваеннага асяродзьдзя.

Тарас Сайка належаў да тых людзей, каторыя прыглядаюцца людзям, іх жыцьцю, іхным перакананьням. І тут спасьцерагае ён, што шматлікія, з каторымі ён знаёміцца, турбуюцца пра сваё, пра свой народ, пра сваю бацькаўшчыну, пра якую выражаюцца з пашанаю і любоўю, і працуюць для яе.

Абсэрвацыі гэтыя прыводзяць Тараса да параўнаньняў са світ народам, да самога сябе і ён спасьцерагае наш уласны недахоп. Тут замежжа, тут эміграцыя, тут іншыя народы – адкрытая кніга народаў. А сумны вынік параўнаньня сам сабою напрашваецца.

Тарас Сайка над усім гэтым затрымліваецца, разважае, думае і ў душы прыходзіць да высnаву, што ён беларус, што ён у сэнсе нацыянальным гэтакі самы, як усе іншыя, каторых тут бачыць, а пазьней будзе назіраць гэты самы вобраз ў народзе, у васяродзьдзі якога ён хутка знойдзецца і будзе жыць даўжэйшы час і астанецца беларусам. Характэрна, што ў гэтым ягоным разважаньні, ён прыходзіць па таго, што не магло ня стацца – паймення, што ён літовец, нашчадак Вялікага Княства Літоўскага.

І тут ён спасьцерагае, што ў літоўскай сям'і няма свае біблії.

## ТАРАС САЙКА Ў АМЭРЫЦЫ

Пасьля шасьці гадоў блуканьня па Нямеччыне, у 1950 годзе Тарас Сайка зь Зінаю прыбываюць у Злучаныя Штаты і пасяляюцца ў Міннэаполіс, штат Міннэсота, дзе абое працуюць на хфабрыцы.

Зьінячваюцца кантынэнты, зьінячваюцца краіны і іхныя мовы; зьінячваюцца эканамічныя ўмовы, але чалавек, у дадзеным выпадку Тарас Сайка, астаецца тым самым характарам, каторы інстынктоўна разумее, што існуюць гэтакія багацьці, як хлеб і да хлеба, існуюць рэчы, якія чалавек называе нярухомасьцямі і іншыя багацьці, якія прынята сярод людзей называць золатам і, што пасьля ўсяго астаюцца багацьці вартасьці духовае, неспасьцярожныя для сярэдняга чалавека, з каторых друкаванае слова ў беларускім перакладзе астаецца, у ягоным разуменьні, сталым, як вечным Беларускі Народ.

Разумеючы значэньне для беларускага народу беларускае біблії, Тарас жыве ідэяю перакладу біблії на беларускую мову. З гэтае прычыны ягоны несупакойны дух шукае кантакту з тымі беларусамі ў Злучаных Шта-

тах, каторыя займаюцца беларускаю думкаю і беларускім друкам. Цяперака пачынае наплываць пад ягоным адрасам бадай што ўся беларуская літаратура, якая толькі друкуецца дзе-небудзь на эміграцыі, але беларускае бібліі, ня відаць.

Аднойчы, калі ён гэтак сочыць за рухам беларускага друку, пападае ў ягоныя рукі невялічкіх памераў часапіс п.т. "Веда", рэдактарам якога зьяўляецца прафэсар др. Ян Станкевіч. Тарас Сайка безадкладна піша да рэдакатара і пытаецца рэдактара, што ён думае адносна перакладу бібліі на беларускую мову. Ад рэдактара Сайка атрымлівае адказ у тым сэнсе, што ў нашым народзе няма такога, з кім можна было-б працаваць над перакладам. На гэта Тарас адказаў у хворме пытаньня:

– А што, калі я знайду гэтакага? Ці будзеце Вы тады перакладаць?

На гэтае пытаньне Станкевіч адказаў:

– Буду.

Пасьля гэтага Тарас запрасіў Майсея Ґітліна ў Міннэапаліс. Ґітлін прыбыў у места і затрымаўся ў доме Сайкаў. Дзьве стораны, якія цяперака спатыкаюцца ў Злучаных Штатах, ведаліся яшчэ з часоў іхнага жыцьця ў Эўропе.

Пасьля таго, як Тарас паінфармаваў Майсея аб сваей гутарцы лістовай з прафэсарам др. Янам Станкевічам, вывязалася доўгая гутарка навакол перакладу бібліі.

У выніку гэтага спатканьня прысутныя прыйшлі да сузгоднасьці думкі ў тым сэнсе, што Ґітлін ахвоча гатоў супрацоўнічаць з др. Янам Станкевічам і тутжа ўзьнялося пытаньне фінансаваньня перакладу, а пасьля – друку.

За Ґітлінам стаяла жыдоўская місыйная арганізацыя, праўдападобна з фінансавымі засобамі, якая,як гэта і зразумела, зацікаўленаю была ў пашырэньні зьместу бібліі і на беларускі народ на дарозе беларускага перакладу. У далейшай гутарцы паміж Ґітлінам і Сайкам прыйшло да паразуменьня ў тым сэнсе: апошні са свайго боку падтрымае фінансава працу прафэсара. З гэтае пары, як ведамым мне стала, Сайка пачаў на гэтую мэту адкладваць у банк што тыдзень адну дзесятую са сваіх заработкаў. І справа перакладу бібліі на беларускую мову пачала ажыўляцца.

Гэтым сьцьвярджаецца запраўднасьць, што ініцыятарам ідэі перакладу бібліі на беларускую мову ў нашым часе і ўрэчаісьненьня яе быў Тарас Сайка.




Зьлева направа стаяць: Янка Ліхач, Якуб Рэпэцкі, Антон Галабурда, Ян Гук, Даніла Ясько, Гарасім Сахар, Гаспадарыня Сахар, Гаспадарыня Марыя Маеўская, Ян Панцэвіч, Панцэвічавы зяць, Тарас Сайка, Валерыян Маеўскі.

# ТАРАС ХАРАКТАРЫЗУЕ БЛІЗКІХ САБЕ

Сярод вялікае спадчыны пісанага слова, якую Тарас Сайка пакінуў пасьля сябе, знаходзіцца вялікая колькасьць ім пісаных лістоў да розных людзей, арганізацыяў і ўстановаў.

Гэтак, ліст да гасп. Якуба Рэпэцкага, датаваны днём 19 чырвеня 1966 годам, прыносіць вялікую колькасьць інфармацыі ў справе першага друку беларускае біблії.

Праўда, Сайка ня грэшыць празьмернаю вучонасьцю, але ягоная мова кажа нам, што ён сумленны чалавек і гаворыць праўду.

Тут ён закранае справу суадносінаў шматлікіх фактараў і людзей, зьвязаных са справаю перакладу біблії і кажа: "Пачынаю нанава і папарадку пісаць пра ўсё, што́ сталася і як было". І далей: "Браты: Ліхач і Сахар*) на мой заклік, Ліхач не адказвае. Чаму? - Ня ведаю. Брат Сахар даў адказ і даволі добры і прыхільна напісаны, але ён моцна прывязаны да сваіх дзьвюх гаспадарак, ня можа адарвацца ад іх і ня можа звольніцца, і жыве далёка ад мяне..."

Я ўжо пісаў брату Рэпэцкаму [сыну Якава - Я.П.] - кажа далей Тарас - што Галёнка хоча нашу Літоўскую царкву ў Мінніаполісе прылучыць да ягонае місыі; ну, разумеецца, была-б польская пляцоўка, але я стаю яму ў перашкодзе, дык думаю, што ён хоча сюды скіраваць Сахара.

І далей Сайка пераходзіць да іншае тэмы.

"У 1952 годзе пераехаў я ў места Мінніаполіс. Тут адразу прыйшла мне думка ў галаву што да перакладу біблії на нашу літоўскую мову. Дык вось, пра гэта я думаў і маліўся, а пасьля пачаў дзейнічаць у гэтым кірунку, шукаючы прыхільнікаў."

"Адносна перакладу біблії я напісаў Данілу Яську два лісты і атрымаў адказ. У адказе Яська пісаў: 'Будзем маліць Госпада, каб даў свабоду на Бацькаўшчыне і толькі тады мы зможам перакласьці Біблію на нашу мову' і, быццам апраўдваючыся, што кажа ён праўду, дадае: "лісты брата Яська я маю ў мяне".

---

*) Пра першага чутка хадзіла, што ён мільянерам зьяўляецца; другі, адведваючы нас у Ґэйнсвільл, выразна гаварыў пра сваю мільяновую гаспадарку.

Пасьля гэтага, - працягвае далей Сайка, -"я напісаў ліст Др. Яну Станкевічу і ён згадзіўся, і мы пачалі дзейнічаць у гэтым напрамку. На маю просьбу Др. Ян Станкевіч хадзіў на кватэру да пастара Яські і прасіў яго, каб памог перакладаць біблію і тут Яська згадзіўся пераглядаць, ці правільны пераклад бібліі. Др. Станкевіч напісаў мне, што Яська згадзіўся правяраць пераклад і гэты ліст ёсьць у мяне."

Хутка пасьля гэтага, - працягвае Сайка, - Гук прыехаў у адведзіны да нас у Міннэаполіс. Пры сустрэчы з Гукам я папрасіў яго, каб ён навязаў кантакт з Др. Янам Станкевічам і ўзяў удзел у перакладзе бібліі. Гук тут-жа згадзіўся і прасіў мяне памагчы яму навязаць кантакт з Др. Янам Станкевічам, і даў мне сваю візытную картку, якую я і пераслаў Др. Я. Станкевічу.".

"Др. Ян Станкевіч напісаў ліст да Гука, просячы апошняга памагчы ў перакладзе бібліі".

"Не чакаючы доўга", - далей кажа Сайка, - "Гук узяў з сабою брата Бічака зь места Чыкаґо і разам паехалі ў Нью Ёрк сустрэцца з Др. Янам Станкевічам і з дарогі б. Гук напісаў мне лісток, кажучы,"так, брат Сайка, я ўжо ў дарозе да Др. Я. Станкевіча," з каторым адбылася сустрэча ў гатэлю. Брат Гук бачыўся з Д. Яськам; але цяперака Яська ўжо не згаджаўся з Гукам, і брат Гук сказаў, што Др. Ян Станкевіч сказаў: не зьвяртаць увагі на пастара Д. Яську, а весьці справу перакладу наперад.

Будучы ў Нью Ёрку, Гук адведаў і тамтэйшае Біблійнае Таварыства і меў гутарку ў справе перакладу бібліі.

"Пры гэтай нагодзе хачу прыпомніць Др. Тумаша, Яна Птроўскага і Д. Яська і магчыма іншыя асобы ў лягерох у Нямеччыне, хацелі заснаваць камітэт з мэтаю перакладу нашае бібліі. Але пра гэтую арганізацыю я нічога ня ведаў ані ў Нямеччыне, ані ў Злучаных Штатах, калі ўздымаў думку што да перакладу бібліі.

Дык тут узьнікае пытаньне, чаму брат Ґітлін ня прыймае Др. Тумаша, Яські і Яна Пятроўскага, а прыймае брата Гука. Ды тут справа Ясная. Калі-б Ґітлін згадзіўся на іх прыняцьце, дык ён ня мог-бы тады быць галавою ўсяе справы, а быў-бы роўны сярод роўных, як работнік". У гэтым выпадку спасьцярога Сайкі вельмі трапнаю ёсьць.

Сустрэча Ґітліна з Др. Янам Станкевічам адбылася ў доме Др. Яна Станкевіча.

Пасьля гэтага, калі мы былі ў двох з Др. Янам

Станкевічам, мы раіліся, як склікаць канфэрэнцыю ў справе перакладу бібліі. Але, калі ўжо далучыўся да нас Ґітлін, дык апошні зараз-жа зарганізаваў Ініцыятыўную групу, як бачым гэта на лісьце блянку нашага Камітэту".

"Прасіў я гэтаксама і іншых, зь іх - Я. Пятроўскага, Архіяпіскапа Васіля - галаву праваслаўнае царквы... Але Ґітлін не хацеў нікога, і Др. Я. Станкевіча гэтак ужо ўзяў пад свой уплыў, што і канфэрэнцыя ўжо непатрэбнаю сталася.

"У сузгоднасьці з маею просьбаю Ґітлін езьдзіў да Яна Пятроўскага. Але Пятроўскі Ґітліну не спадабаўся, і Ґітлін казаў, што Ян Пятроўскі ёсьць ваенным чалавекам і, што ня ведае пісьма бібліі і гэтак далей.

Ґітлін гэтаксама хадзіў і да галавы праваслаўнае царквы - прэасьв. Васіля ў Нью Ёрку. Дык здаецца, Васіль брата Ґітліна пацалаваў у галаву. Але ўсё роўна, у камітэт ня быў прыняты.

Пазьней Архіяпіскап Васіль пісаў мне так: З жалем кажучы, др. Ґітлін многа зрабіў нам дабра, але нятрохі рабіў і зла. Ліст гэты перахоўваецца ў мяне.

Дык хоць я адразу трохі і зразумеў справу, аднак ня можна было адразу востра выступаць, бо гэтым я мог-бы ўстрымаць пераклад бібліі.

Затым што арыгінал перакладу бібліі пісаны быў рукою Др. Я. Станкевіча, затым Ґітлін доўга прасіў нейкую ўкраінку, каб узялася перапісваць тэкст на пішучай машыне. Але дзяўчына не хацела. Пасьля гэтага др. Ґітлін пачаў даваць лекцыі зь беларускае мовы нейкай жыдоўскай дзяўчыне, з замерам, што яна патрапіць перапісваць. Але вынік быў сумны: дзяўчына напісала толькі адну бачыну і болей не. Пасьля Ґітлін запрасіў іншую верючую дзяўчыну польскага паходжаньня. Але, у рэзультаце ўстаўліваньня ёю польскіх літараў у беларускіх словах /відаць мела труднасьці з адчытаньнем беларускага тэксту/, пісанага Янкам Станкевічам, праца не пайшла далей. Тады я прасіў Ґітліна, - працягвае сваю нарацыю Сайка, - каб даў перапісваць Аляксандру Мезяку, каторы жыў у маім доме і быў бяз працы. Але Ґітлін не хацеў.

Нарэшце зарганізаваўся Камітэт дзеля спраўджаньня перакладу бібліі. Галоўным тут было, чаго дамагаўся Сайка, каб Камітэт складаўся толькі зь беларусаў. Але ў між часе былі ўведзеныя два ўкраінцы: Жабка-Потаповіч і нейкі сьвятар Чапленка. Дык тут я зноў, - як піша Сайка, - паўстаў супроць іх".

"Дый тут, калі памятаеш, Ян Пятроўскі ў 'Сьветачы Хрыстовае Навукі', тое самае пісаў. Пісаў я гэтаксама пра гэта і сьвятару Чапленко і гэты адказаў мне паштоўкаю, просячы мяне не ўспамінаць ягонага імя, бо ён выйшаў з Камітэту.

Тады Тарас Сайка піша ў гэтай справе да Ґітліна. Апошні адказвае, што ня ён хвармаваў Камітэт пераглядy біблii і ня Др. Я. Станкевіч, але Біблійнае Таварыства як адумысловец і запрасіла ўкраінцаў. Гэта характэрна для Ґітліна, што ён гэтак піша, бо ён ведаў, што ніякае біблійнае таварыства ня ўмешваецца ў унутраныя справы перакладчыка, ані людзей. каторыя так ці інакш зьвязаны з прадпрынацьцем.

Тры гады пазьней, з нагоды 25 Сакавіка 1969 году Сайка прысылае мне ліст. Агульна, тут ён даносіць, што сярод перакладчыкаў і зацікаўленых непаразуменьні становяцца хранічнымі. Між іншым, у гэтым лісьце піша ён: "Думаю, што Вы ўжо ведаеце, што Ґітлін памер. У яго заўсёды неправўдзівая палюбоўніца [Украіна – Я.П.] перашкаджала яму. За сабою Ґітлін пакінуў вельмі сумную дарогу ў справе нашае Біблii ... Коратка зазначу, што Ґітлін арыгінал нашага перакладу Біблii даручыў украінскім баптыстым: каб выдалі друкам нашу Біблію". І як ён зрабіў гэта? Ён рашыў, што тыя грошы, якія былі сабраны на нашу Біблію, аддаць на куплю ўкраінскае друкарні, з тым разьлікам, што друкарня ў першую чаргу выдрукуе беларускую Біблію. Гэтакі быў плян Ґітліна перад сьмерцьцю. Фактычна, "друкарню ўжо купілі 7 месяцаў таму. Друкарня знаходзіцца ў Віннiпэґу /Канада/. Др. Я. Станкевіч даў Ґітліну вялікую свабоду, але раней ці пазьней засароміць Бог ворагаў праўды".

На гэтым канчаецца пяцібачынны ліст Тараса Сайкі, адрасаваны да Якуба Рэпэцкага.

## ЗАКЛІК ТАРАСА САЙКІ СКІРАВАНЫ
## ДА ЭВАНГЕЛЬСКІХ БРАТОЎ

Да маіх Брацьцяў і Сёстраў у Ісусе Хрысьце – Суродзічаў Беларусаў і Беларусак:
Ласка Вам і мір ад Бога Айца і ад Господа нашага Ісуса Хрыста!

Карыстаючы з нагоды Канфэрэнцыі, я, Тарас Сайка, найменшы Ваш брат у Хрысьце і з паходжаньня аднае крыві з Вамі беларускае, зьвяртаюся да Вас з шчырым хрысьціянскім заклікам.

Кажны раз, калі я думаю аб нашай збаўчай веры ў Ісуса Хрыста і пра наш шматзмагарны беларускі народ што астаўся там далёка на Бацькаўшчыне, сэрца маё напаўняецца сумам і тугою. Бо кажны народ, амэрыканскі ці польскі, расейскі ці жыдоўскі або іншы які, мае ад Бога права славіць савйго Спаса, маліцца да Яго і прапаведваць Эвангеле ў сваей роднай мове.

Толькі мы, беларускія эвангельскія хрысьціяне, не паступаем паводля дадзенага нам Богам права. – Ці-ж мы пакінулі свой край або цураемся свайго народу, саромеемся свае роднае мовы, тае самае мовы, якою да нас гаварылі нашыя маткі? Дзе-ж нашая родная песьня, дзе-ж нашыя родныя звычаі і абычаі? Дзе-ж нашая слаўная мінуўшчына Вялікага Княства Літоўскага?! Дзе-ж слава нашых дзядоў і прадзедаў?

Не, Браты і Сёстры мае, мне здаецца, што мы знаходзімся на блудным шляху, зь якога мы павінны зыйсьці. Мы павінны абярнуцца тварам да нашага народу, Беларускага Народу. Мы эвангельскія хрысьціяне, павінны ўзяць турботы нашага народу на свае плечы і памагчы яму ў цяжкім і няроўным змаганьні за правы на свабоду, за народную асьвету, за права, як казаў наш народны паэт Янка Купала, "людзьмі стацца" і быць гаспадарамі на нашай зямлі, той самай зямлі, якую наш народ атрымаў з рук Бога.

З Божага Провіду выпала нам жыць у часе, калі будзе вырашацца лёс многіх народаў, у тым ліку будучыня і беларускага народу. І мы, эвангельскія хрысьціяне, ня можам і не павінны стаяць бясчынна. Мы павінны сказаць перад вольным сьветам свае слова, што мы ЁСЬЦЬ, што мы жывем і, што мы надалей будзем веруючымі ў Хрыста Беларусамі, каторыя доб-

раахвотна прыймаюць на сябе адказнасьць за прышласьць і памыснасьць свайго народу. Надыйшла ўжо найвышэйшая пара́ запачаткаваць нашыя беларускія зграмаджэньні, выдаць друкам беларускую біблію, выдаць друкам беларускі сьпеўнік з нотамі, пачаць выдаваць, новы і пригожы беларускі эвангельскі часапіс і эвангельскую літаратуру на беларускай мове. Цяперака час на гэта. Памятайце, што жывы Христос сярод Вас на Канфэрэнцыі і вымагае ад Вас урэчаісьненьня Ягонага Эвангеля сярод нашага абязсіленага няволяю беларускага народу.

Я ведаю, што гэта многім з нас пакажацца нейкаю навінаю, нечым незразумелым. Але гэта адзіны шлях, каб мы сталіся тым, чым быць мы павінны: Беларускімі Эвангельскімі Хрысьціянамі.

Цяперака, калі Вы сабраліся на Канфэрэнцыю, станьце ў сьвятле адкрытага перад Вамі Эвангеля, і дазвольце, каб Дух Госпада асьвяціў сэрцы Вашыя і накіраваў Вашыя дзеяньні на шлях праўдзівае службы для Беларускага Народу.

Няхай-жа ўсемагутны Бог асьвеціць Вас і паможа Вам стацца запраўднымі Ягонымі дзяцьмі.

Ваш найменшы ў Хрысьце брат,

Тарас Сайка

Год 1960.



Майсей Ґітлін піша:
Тарасу Сайку - ініцыятару перакладу
Біблії на беларускую мову.

-

Пастара Майсея Ґітліна спаткаў я першы раз у Варшаве недзе ў другой палове трыццатых гадоў. Тут, на Пражскім прадмесьцю меў ён пачатак хрысьціянскае місыі сярод жыдоў. Была гэта група дзяцей абяднеўшых сем'яў. Калі мы ўвайшлі ў будынак, абслугоўваў дзяцей малады чалавек, вельмі спакойны, аддансправе. Пастар Ґітлін прадставіў яго мне і пры гэтым паясьніў /імя ягонае не памятаю сягоньня/, што ён зьяўляецца ягоным заступнікам у часох Ґітлінавае адсутнасьці.

Было гэта першае і апошняе наша спатканьне ў Эўропе.

Здарэньне хацела, што мы на амэрыканскім кантынэнце спаткаліся яшчэ адзін раз і спатканьне гэтае было адначасна доўгім як і чараватым здарэньнем, гэтак паважным, як і часамі сьмешным.

Ягоная афіцыяльная лістовая папера гаварыла,што ён зьяўляецца Дырэктарам Місыяністычнае Весткі для жыдоў і славянаў.

На гэткай фірмовай паперы Ґітлін дня 15 красавіка 1958 году, сярод іншага, пісаў мне па-расейску: "Гаспадар Тарас Сайка зь Мінніаполісу, у сувязі з нашым перакладам Сьвятога Пісаньня на беларускую мову, ласкава напісаў мне пра Вас... Мне вельмі хацелася-б спаткацца з Вамі пры першай нагодзе... Калі так, дык будзьце ласкавы, паінфармуйце мяне, як можна даехаць да Вас у Цэнтраль Сквэр, Нью Ёрк."

Памылка для Ґітліна, як і для Сайкі ляжала на плошчы няведаньня беларуска-культурнага, як і палітычнага стану рэчаў і асабліва на эміґрацыі, як і з часу перадваеннага і ваеннага. А прыпадкавыя абставіны дапамаглі ім і спрыялі іхнаму няведаньню. Калі ў неўзабаве пастар Ґітлін адведаў мяне ў Цэнраль Сквэр, ён гэтак з прычыны няведаньня, як пасьляваеннае хваробы, гэтак вёў сябе, што згубіў нагоду пазнаньня вартасьцяў дактарату і прафэсуры. Пад гэты мяноўнік падпадае гэтаксама і пастар Сайка, хоць адказнасьць у дадзеным выпадку ў неаднолькавай меры распасьціраецца на іх, як і прынята агульна разумець: Хто болей мае, ад таго і вымагаецца болей.

У васнаўным, ані Ґітлін, ані Сайка, ці хто-небудзь іншы з нас не памыляецца, калі чуе тытул доктар ці прафэсар. З тытуламі гэтым вяжацца нешта такое, што будзіць у нас рэмінісцэнсыі навуковае важнасьці. Калі чалавек чуе слова вучоны, яно адразу



Старадаўнай Літоўскай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!

Максім Багдановіч

будзіць у нас сымпатыю і пашану з ахвотаю знайсьціся як мага бліжэй да яго і пачуць нешта такое, чаго не пачуеш з вуснаў звычайна сьмяротнага.

Пастар Майсей Ґітлін, пасьля фармальнага ўключэньня сябе ў хрысьціянскі сьвет, бачыць у ім новыя абставіны, ахопліваючыя яго, і ў гэтым сьвеце ён сам сябе ўзгадоўвае, і стаецца з гэтае пары сярод простага люду аўтарытэтам, як хрысьціянін, каторы, апрача ангельскае мовы ведае гэбрайскую, а праз сваё ґэоґрафічнае паходжаньне пазнаў у рознай меры славянскія мовы. Апрача гэтых магчымасьцяў ён ніколі ня губіў сьведамасьці, і гэта пахвальна, што ён жыдоўскага паходжаньня.

Зь дзіцячых гадоў, Мошка ўжо адведвае хэйдэр, дзе пазнае штуку чытаньня гэбрайскага тэксту і лічэньня.

З натура абдораны цікавасьцю пазнаньня рэчаў, якія спасьцерагаў навакол сябе. Гэты філязафічны нахіл у яго перамагае ўсе навыкі жыдоўскага жыцьця, прышчэпленыя яму /падобна, як Сьпіноза/ і дазваляе падыйсьці бліжэй да хрысьціянства, асабліва эвангельскага.

Яму імпануе факт, што да яго веруючыя людзі падыходзяць з адумысным сэнтымэнтам, ведаючы, што гэты новы чалавек у іх ведае шматлікае з таго, што ім няшмат ведамым астанецца на ўсё жыцьцё. Гэтым аб'ектам ёсьць веданьне ў той ці іншай ступені гэбрайскае мовы. Факт гэты суґэруе маладому гэбраісту, як ён думае, магчымасьць стацца тым вучыцелем для паасобных зграмаджэньняў усіх нэопротэстнцкіх збораў, як і для тых, што стаяць на чале іх - дыяканам, празьбіцерам і пастарам... ба, нават шматлікім тытулярным дактарам і прафэсарам з дыплёмамі тых ці іншых унівэрсытэтаў...

/Характэрна, да мяне не дайшла ніякая вестка, што пастар Ґітлін навучыў штукі чытаньня гэбрайскага тэксту хоць-бы аднаго чалавека са сваіх эвангельскіх братоў/.

Пазыцыя вандроўнага прапаведніка падабалася яму і звальняла яго абавязкаў седзячага гандлю.

І наверсе ўсяе гэтае панарамы ўздымаецца перад ім візыя, што хоць ён і зьяўляецца апавяшчальнікам хрысьціянства, тымняменей, яно зьяўляецца для яго юдэйскім. Ён гэта ведае, ён пэўным ёсьць тут, што тое, чаго ягоныя слухачы не адчуваюць і не спасьцерагаюць, варожыць на добры омэн. Ён бачыць, што ўсё разам, пранікае ў хрысьціянскія сьвятыні, а што найболей важным - пранікае ў душы хрысьціян, усё

роўна да якое з канфэсыяў яны належаць, і ў вапрычонасьці, да нэопротэстанцкіх. Для іх новаўзьнікаючая літаратура перастае быць літаратураю, як гэта агульна прынята разумець, а стаецца словам божым, сьвятым пісаньнем, апошнім аўтарытэтам для ўсіх правоў напісаных тымі ці іншымі людзьмі, у тым ці іншым часе. Затым цэлы гэты камплекс кіруецца туды - у гэтак званыя сьвятыя месцы, што да якіх людзі чуюцца шчасьлівымі, калі хоць раз ім у жыцьці давядзецца пабываць, хай сабе і кароткі час і пабачыць тое, чаго вока ня бачыла і вуха ня чула...

-

Паводля Ґітлінавага лісту з дня 28.5.1958 году, плянуе ён быць у нас у Цэнтраль Сквэр у панядзелак 8 чырвеня. Гэтак і сталася. Прыбыў ён у Цэнтраль Сквэр обусам дакладна а 8.15. Дзесяць мінютаў пазьней былі мы ўжо ў нас дома.

Маім замерам было запрасіць Ґітліна да сябе, і ў васьцярожных словах папярэдзіць яго, як зусім новага чалавека ў нашым беларускім асяродзьдзі, што іхны выбар на галоўнага перакладчыка бібліі ня зусім трапным ёсьць.

Аднак пры ўсім маім жаданьні, да гутаркі між намі не дайшло. Сталася гэта вось як:

Зараз па прыбыцьці ў наш дом, ён сказаў, што ён вельмі змучаны і выразіў пры гэтым думку, што ён ахвотна астаўся-б у нас на пару дзён, каб крышку супачыць, калі мы яму дазволім.

Ведама, мая пані, як і я, ня толькі дазволілі, мы запрасілі яго. Абрадаваўшыся пачутым, ён зьвярнуўся да мяне з просьбаю, пакупацца ў цёплай ваньне.

Ён зараз-жа апынуўся ў цёплай ваньне, а жонка ў між часе, як гэта і бывае сярод беларусаў, закраталася ў кухні, рыхтуючы стол і да столу. І тут сталася!

Пасьля таго, як госьць выкупаўся і пачуўся адсьвежаным, я правёў яго ў гасьцінны пакой. У працэсе ўжо сяданьня ў мяккую канапу, ён зьвярнуўся да мяне з пытаньнем:

- Чаму вы не працуеце, як пастар?

Само пытаньне мяне ня зьдзівіла, бо чуў я яго ўжо шматлікія разы з вуснаў іншых людзей, і сказаць яму, што не працую, бо хачу пражыць жыцьцё як чэсны чалавек - гэта магло-б балюча зьдзівіць яго, калі не абразіць, а з майго боку забрала-б шмат

часу, каб паясьніць яму, як я прыйшоў да падобнага высnаву, затым я адмахнуўся кароткім сказам:

– А..., – сказаў я, – гэта з прычынаў палітачных.

Чуючы мой адказ, Ґітлін тут-жа сказаў:

– Скажэце, калі ласка, калі адыходзіць обус з Цэнтраль Сквэр?

Зразумеўшы яго тут-жа на месцы, я паглядзеў на гадзіньнік і сказаў гэтаксама ў спакойным тоне:

– За пятнаццаць мінютаў, але мы яшчэ пасьпеем, калі зараз выедзем.

Ён устаў з канапы і мы ўжо былі ў маім самаходзе на дарозе ў Цэнтраль Сквэр. Ён нават не падзякаваў нам і не пажагнаўся з жонкаю маею, каторая ў тым часе ўсё яшчэ была ў кухні.

Зараз надыйшоў обус і мой госьць паехаў.

Філязофія, як і ўсе філязофы-правадаўцы, гэтак абвінаваўцы і абаронцы, у ніякім выпадку не дазваляюць, выслухаўшы адну сторану справы, рабіць якінебудзь апошні выснаў.

Гэта зноў прыводзіць мяне на ўспамін таго маладога Ґітлінавага заступніка ў Варшаве, калі ён астаўся адзін зь дзяцьмі ў месьце, тады, як ягоны старшыня паплыў у Амэрыку і ніколі не вярнуўся да свайго стада ў Варшаве.

Калі Пастар Ґітлін коратка пабываў у нашым доме, я ўлучыўшы хвіліну, запытаў яго:

– А як там гэты маладзы чалавек у Варшаве, як яго звалі? /і Ґітлін назваў яго/ ці ён тут дзе? І Ґітлін пахіліў галаву ўніз і, поўпрыцішаным голасам сказаў:

– ... ён ня жыве...

Сумленьне – гэта добрае і страшнае нешта ў душы чалавека. І чалавек, калі знойдзецца ў крытычным палажэньні, хоча ўцякчы ад адказнасьці перад уласным сумленьнем, будзе шукаць прычыну зла ўсюды, але не ўсваім уласным сумленьні. Гэта змусіць яго пазьней сказаць, што "Пятроўскі ваенны чалавек", і што гэта ён вінаваты.

Падобнае зьявішча ў пазьнейшых гадох знойдзе сваё выражэньне ў адумысным артыкуле ў штодзеннай газэце Gaineville Sun, уласнасьць Ньюёрскага Таймсу, з дня 3 студзеня 1977 году, у сэкцыі D, б. 8 – Тут гаворыцца,прыблізна, што ўсе жыды з прычыны дазнаных цярпеньняў у часе Другое сусьветнае вайны, зьяўляюцца хворымі і хваробу сваю распасьціраюць на сваіх дзяцей.

# Др. ЯН СТАНКЕВІЧ

Наколькі сягоньня прыпамінаю сабе, першы раз спаткаў я Др. Яна Станкевіча на пачатку другое паловы трыццатых гадоў хутка пасьля пераезду майго з Дзярэчына ў Варшаву. Спатканьне займела месца ў Вільні, недзе на Завальнай вуліцы.

Не памятаю хто быў ініцыятарам спатканьня і якая мэта была ягоная. Але гэта рэч другарадная.

Перад спатканьнем я ўжо чуў пра яго, пра ягоную жонку чэскага паходжаньня, каторая была блізкаю асобаю для амэрыканскіх місыянерак у Вільні і частым госьцем зь дзяцьмі ў сям'і Наўзнэраў на Роўным Полі. Пры спатканьні тут усе гаварылі па-нямецку, а са мною зусім добра па-беларуску. Са спатканьнем на іншых месцах даведваюся я, што гаспадарыня Станкевіч мае апанаванаю і ангельскую мову.

Цяперака спатыкаю Яна Станкевіча. Чалавек сярэдняга ўзросту, сутулаваты, бязвыражэньнявая твар, маўклівы. Ня ведаю сягоньня чаму, але ўсе прысутныя карысталіся польскаю моваю. Усе? - Не, ня ўсе. Калі прыходзілася Яну Станкевічу што-небудзь сказаць, ён ужываў толькі і толькі беларускую мову. На мяне гэта ўзьдзейвала імпануюча і стварала ўражаньне глыбокага беларускага патрыятызму.

Аднак гэтае ўражаньне з гадамі мала па-малу астыла з тае прычыны, што, як на гэтым зграмаджэньні ён не ўжываў польскае мовы, гэтак я ня чуў прамаўляючага яго на ангельскай мове, расейскай, украінскай, нямецкай ці хоць-бы недалёкай для яго мовы - чэскай. Факт, што нехта, ўжываючы адну з гэтых моваў, можа ў краме купіць пáру селядцоў, ці падзяліцца з сябрам словамі аднасна прыгожае пагоды, гэта яшчэ ня чыніць чалавека філялёгам. Быць мовазнаўцам - гэта нешта іншае; яно аграмаднае, яно дамагаецца сплёту іх, прысутнасьці праўдзівае навукі і інтэлекту. Калі цяперака ўвядзем у гэтакую атмасфэру пераклад аўтарытатыўнага твору ў памеры, скажам, Бібліі, дык гэта паставіць перад намі большыя вымаганьні з вычуцьцём адказнасьці.

-

Наступны раз спаткаў я Яна Станкевіча ў Вільні на лекцыі беларускае мовы для прысутных сяброў Беларускага Навуковага Таварыства /?/, да чаго за-

ахвоціў мяне Др. Антон Луцкевіч. На клясавай дошцы прэлегэнт выпісваў склады і акцэнты некаторых беларускіх словаў. Прысутныя ўспрыймалі чутае пераважна моўчкі.

Трэйці раз спаткаліся мы ў Вільні ў ягонай кнігарні на Вострабрамскай вуліцы, дзе завяршылі транзакцыю, аб чым гутарка будзе на іншым месцы.

І апошні, чацьверты раз, хай сабе на хвіліну, спаткаліся мы ў Бэрліне на цягніковай станцыі, скуль у тым часе беларускія патрыёты кіраваліся на Захад.

Тут між намі вывязаўся кароткі дыялёг.

- Я еду да сям'і, - сказаў ён, і хутка дадаў, - Ваша аставайся тут і працуй, Ваша маеш добрую беларускую мову.

Я астаўся моўчкі на месцы.

Ён заўсёды быў адважны ў часе супакою, а там, дзе выступаў мамэнт адказнасьці, ён умеў падацца ў цень, каб быць неспасьцярожным.

Пасьля разгрому Грамады, ён, як добры беларускі патрыёт, не павінен быў прыняць прафэсуры польскага ўраду ў Варшаве. Якога адценю палітычнага была Грамада, яна заўсёды была беларускаю. Салідарызавацца зь беларускасьцю ёсьць першым абавязкам беларуса.

--

Часта слухаючы якога-небудзь чалавека, мне робіцца сорамна, калі ён пераканаьнем кажа пра сябе, што ён усё ведае. Бо кажны раз, калі я пачынаю думаць, колькі я ведаю, тады прыходжу да пераканаьньня што чым далей крочу ў гэтым напрамку, заўсёды прыходжу да выснаву, што ведаю замала. Трэба толькі падумаць, колькі на сьвеце ёсьць рэчаў і зьявішчаў, пра якія я ніколі ня чуў і праўдападобна ніколі не пачую і не пазнаціму.

Гэтую спасьцярогу і навуку чуем у выснаў разумнага чалавека - Сакратаса. Ідучы па гэтай лініі разважаньня, мы прыходзім да выснаву: навука чалавека пачынаецца з днём ягонага нараджэньня і канчаецца з мамэнтам закрыцьця вачэй назаўсёды.

## АСЬВЕТА

У міжваеннай Польшчы суадносіны студэнта да школы рэгуляваліся Міністэрствам Асьветы. У суз-годнасьці з адноснымі пастановамі стварыўся праўны status quo, паводля якога кажны чалавек мог стацца студэнтам, як вольны слухач. Каб атрымаць дыплём – патрэбна праўная матура.

Калі ідзе гутарка пра беларускія сярэднія школы, дык цярпелі яны пераважна зь дзьвюх прычынаў: Па-першае, іхныя школы былі бедна ўладжаныя; і па-другое – іхны атэстат сьпеласьці, з прычы статуту на-вуковага не прызнаваўся вышэйшымі школамі. З гэ-тае прычыны абсальвэнты беларускіх гімназыяў губі-лі час і магчымасьць далейшае адукацыі.

З пачатку палове трыццатых гадоў у гэтым дачыненьні прыйшло да палітычнага зьінячаньня.

Я памятаю, прыблізна ў гэтым часе прыехаў я на пару дзён у Сярэдняе Сяло. Тут пастар Эрнст Наўз-нэр падзяліўся са мною дзіўнаю весткаю палітычна-га характару. Ён быў паклікаяны нядаўна да старост-ва ў Валожыне. Тут яму раілі, каб ён перастаў пра-паведваць па-расейску і перайшоў на адну зь дзьвюх моваў – на польскую або беларускую. Затым, што ён польскае мовы ня ведаў, дык ён перайшоў на беларус-кую.

Прыблізна ў гэтым часе ў Вільні ў школьніцтве гэтаксама займелі месца зьмены. Тут польская гім-назыя ім. Зыгмунта Аўгуста ўвяла навасьць – прад-мет навучаньня беларускае мовы з правам матураль-нага ўзнаньня.

У гэтым цяжкім часе змаганьня беларускае мола-дзі за адукацыю, агульна ведамым сталася, што а-дзін з пражскіх унівэрсытэтаў, пайменна, уні-вэрсытэт імя Карла расчыніў свае падвоі і для бе-ларускае моладзі з Польшчы.

Тут на помач нам прыходзіць В. Станкевіч, сын Яна Станкевіча, са сваею працаю пад тытулам "З Аш-мяншчыны да Амэрыкі"./Артыкул друкаваны ў часопі-се „Беларускі сьвет" № 17 /46/, 1985, бб.4-18./. Тут пра жыцьцё і дзейнасьць свайго бацькі Вячак Станкевіч на бачыне 6 сярод іншага кажа: ... "Ян-ка здабывае атэстат сьпеласьці ў Беларускай Гімна-зыі ў Вільні, 14 ліпеня 1921-га году". І дзеля аду-кацыйнага падмацаваньня, Вячак дадае: "Ведамая па-этэса Натальля Арсеньнева некалі ўспаміналa, што я-

на, як 16-цігадовая студэнтка памагала Янку ў падрыхтоўцы да эгзаменаў.
Цяперака Ян Станкевіч едзе ў Прагу.
Як выходзіць з нашых разважаньняў, матуральнае пасьведчаньне Беларускае Гімназыі ў Вільні праўна ня бралася пад увагу. З другога боку, калі Пражскі ўнівэрсытэт і прызнаваў праўна успомнутае пасьведчаньне, дык толькі пад пэўнымі ўмовамі, якія вязаліся гэтак з унівэрсытэтам, як і са сьпеласьцьцю студэнта. Напрыклад: студэнт у падобным палажэньні ня мог-бы быць прынятым на мэдычны факультэт, матэматычны або архітэктурны... Ён можа быць прынятым у спэцыфічны - моўны, рэлігійны...

Найтруднейшая рэч для пішучага - гэта пісаць аўтабіяграфію пра сваяка і, асабліва, пра блізкага сваяка, каторым ёсьць для кажнага з нас родны бацька.
Тут выступае паважная перашкода, якую словамі выразіў грэцкі філёзаф Арыстотэлес:

Памылковым ёсьць класьці
сяброўства перад праўдаю.

Чалавек ці народ у першую чаргу шукае праўду, рэчаіснасьць, фактаў, каб ухіліцца ад ашуканства самому і даць гэткую магчымасьць іншым.
І далей гасп. В. Станкевіч на б. 17 свае працы кажа: "У Празе, маючы ўжо трыццаць гадоў, Янка Станкевіч атрымлівае дзьве найгалаўнейшыя здабычы ў сваім жыцьці, пайменна: - дактарат славянскае моваведы і гісторыі ды сяброўку... жыцьця, Марылю".

Агульна ведамым ёсьць, што кажная адукацыйная інстытуцыя стаіць на стражы свайго прэстыжу, калі ходзе аб выдаваньні розных дакумэнтаў сваім абсальвэнтам. Пры выдаваньні дакумэнтаў аб заканчэньні навукаў, бралася пад увагу хто́ атрымлівае і які факультэт быў месцам адукацыі.

У Празе ведамым было, што беларуская моладзь, якая прыбывае сюды па навуку, рэпрэзэнтуе сабою сялянскую моладзь і найболей адпаведным /хоць і неабавязкава/ для яе можа быць аґрарны факультэт. І, праўдападобна, усе беларускія студэнты з Польшчы, атрымалі заслужана адпаведныя дакумэнты з тытулам Інжынера. Нявыключнаю рэчаю ёсьць, што др. Ян Станкевіч атрымаў і тытул інжынера.
Агульны свой выснаў раблю я на падставе дакумэнтаў, якія так ці інакш знайшліся ў маім перагружаным архіве, як і выказваньняў ведамых мне асабіста людзей.

Аднойчы, недзе ў палове трыццатых гадоў, паехаў я з Варшавы ў Вільню. Цягнік ўжо набіраў хуткасьць, я, асьцярожна праходзячы вузкім калідорам, заглядаў у купэ, каб знайсьці крыху свабаднейшае месца, як раптам у вадным з вагонаў у мяне вырвалася:

– Антось! Скуль ты, дзе ты жывеш? – У мяне бо ўзьнікла думка, што мы разам жывем у Варшаве і ніколі не спатыкаліся. – Ты з Варшавы?

– Не, – адказаў гэтаксама зьдзіўлены Антось, – не, я еду дадому.

З Антосем я знаёмы здаўна; мы нават калісьці былі вялікімі сябрамі, але доля нас распадзяліла і, будучы кажны з нас заняты сваім, аддаліліся мы адзін ад аднаго.

– Я, братка, еду дахаты з Прагі чэскае. Закончыў я сваю навуку ў Пражскім унівэрсытэце і атрымаў дыплём з тытулам інжынера.

Чуючы ягонае радасна ўсхваляванае апавяданьне, я радаваўся разам зь ім, з усімі радаснымі беларусамі, з прычыны множаньня патрэбнае нам беларускае моладзі. І ў мяне чамусьці ўзьнікае вобраз: – Аграмадны кусок зямлі. У паветры чуцён зьліўны гук немітодзенных самаходаў, хуткі рух працуючых людзей; адны будынкі выканчаны, іншыя выканчваюцца; на адумысным нейкім падвышшы стаіць Антось з выцягнутаю наперад рукою, быццам гаворыць некаму, як мае бегчы лінія...

– Дык скажы, братка, – я яго пытаю, – што ты цяпераka маеш рабіць, якая твая адумыснасьць мае быць.

Ён, як заўсёды, спакойны і пэўны свае творчае сілы, адказвае:

– Я ведаю, напрыклад, як розы гадаваць. – Наступіла пауза.

Ён маўчаў, бо каб стварыць вобраз, як розы гадуюцца, займе шмат часу. І я маўчаў, бо перада мною ўзьнікае вялікая плошча ворнае зямлі і на ёй я бачу розы чырвоныя, белыя, жоўтыя, усюды розы і розы.

Антось перабівае маю відзежу і пачынае гаварыць, што сабою прадстаўляе Прага і тамтэйшы унівэрсытэт і, для падмацаваньня чэскае культуры, ён нагінаецца да сваіх валізак і дастае прыгожа выробленую карабку і паясьняе, што ў ёй сыр. Праўда – расчыненая круглая каробка ў дыямэтры прыблізна 8 цэнтымэтраў выяўляе сабою вясёлкавы веер, які твораць кускі сыру, эстатычна закручаныя ў колернае апакаваньне.

- Вось, - кажа Антось, - гэтак і падобна сыры вырабляюцца тамака і прадаюцца, - і пасьля нашага падзіву, ён дастае адзін кусок сыру і падае мне папробаваць. Я пробую і сьцьвярджаю прысутнасьць пад кажным кутом гледжаньня культурна і прыгожа выраблены прадукт гатовы на рынак.

У часе, калі мы займаліся гутаркаю і частаваліся сырам, цягнік рабіў сваё. Надыйшла пара́, калі Антось павінен перасядаць на іншы цягнік. Мы пажадалі сабе самага найлепшага і разыйшліся да часу наступнае сустрэчы. Гэтым разам ужо ў часе вайны.

Цяперака я еду адзін і пад рытмічны такт вагонных колаў зноў бачу тыя самыя розы..., інжынера...

Дэфініцыя паняцьця інжынера вельмі скамплікаваная і агортвае сабою кажную працу і дзейнасьць чалавека; яна агортвае сабою кажную галіну навукі, якія сабою твораць тое нешта, што мы звычайна называем цывілізацыяю.

У 1985 годзе выходзіць з друку № 17 /46/ часапісу п.т. "Беларускі сьвет", выдаўцом якога і друкаром зьяўляецца гасп. М. Прускі. У гэтым нумары нашую ўвагу прыцягвае даволі абшырны артыкул пяра В. Станкевіча, наймалодшага з трох сыноў Яна Станкевіча. Артыкул носіць назоў: "З Ашмяншчыны да Амэрыкі" з падтытулам: "Шлях змаганьня Янкі Станкевіча за мову й волю свайго народу". Тут гэта так сказана, што прыпамінае нам усіх тых нашых добрых людзей, каторыя ня толькі змагаліся за ўспомнутыя ідэалы, але цярпелі і мільёны іх, каторыя аддалі сваё жыцьцё і бязіменна пахаваны на ведамых і няведамых мясцох.

Гэта адзін з тых артыкулаў, які характарам сваім прыпамінае пісаньне сваяка пра сваяка. У дадзеным выпадку сын гаворыць пра бацьку. Аўтар артыкулу, як відаць, меў значныя труднасьці, бо сам аб'ект у жыцьці мусіў быць цьвярдым гарэхам.

Ян Станкевіч быў усім. З аднаго аб'екту навуковага перакідваўся на іншы падобны, ад слова да слова, ад цьверджаньня да іншага супроць-цьверджаньня з лекцыі да лекцыі, думаў і прыходзіў да выснаваў і ўсе ягоныя студэнты, ня выключаючы ніжэйпадпісанага, з часам, спасьцярогшы памылку ў самых сябе, як і ў прафэсара, адзін за адным пачалі адыходзіць і думаць самастойна. Пра падобнае і пра адукацыю бацькі сын расказавае нам. У гэтым выпадку апошняму належыцца ад нас вялікае дзякуй.

## АЛЬ-КІТАБ

Аль-кітаб - гэта асобны аб'ект разважаньняў. Пра яго мы чулі ў Вільні неаднойчы; маўчалі ў часе вайны і пасьля яе і загаварылі зноў пра тое самае цяпер ужо на эміграцыі, каб нарэшце, даведацца, што мы замала ведаем. /Мне тут чамусьці ўсплывае на ўспамін той чалавек, каторы аднойчы быў запытаны, Чаму зьверы не гавораць? І чалавек адказаў, што зьверы затым не гавораць, бо ня маюць што сказаць/.

Аль-кітаб праўдападобна ёсьць малітвеньнікам магамэтанскіх пэрсаў, каторых бацькаўшчынаю была Пэрсыя са сталіцаю Тэгэран. З 1935 году стаецца сталіцаю гаспадарства ведамага як Іран.

Калі мы гаворым пра арабскі ці магамэтанскі сьвет, мы ўступаем на абшар Азыі. Азыя - гэта глыбака гістарычныя падзеі нашага ґлёбу. Тут узьнікалі першапачаткі нашае цывілізацыі. І калі мы сягаем мала прысьвячаем увагі агульным падзеям старажытнасьці, дык стаецца гэта, апрача розных іншых прычынаў, і тая, што агульнае разьвіцьцё людзкага роду напатыкае і тыя яшчэ сукрытыя, якія мы называем зьінакачаньнем паглядаў чалавека ў хворме вызнаваньня вераў, паглядаў у імкненьні да лепшага сацыяльнага жыцьця...

Ведаем толькі тое, што "Аль-кітаб" знайшоў заслужаны ў нашай гісторыі архэалёг, Іван Луцкевіч, брат Антона Луцкевіча і пераказаў знаходку ў Віленскі Беларускі Музэй. Узьнікала пытаньне для зацікаўленых, што гаворыць зьмест, напісаны літарамі, якіх ніхто ў Вільні ня мог расшыфраваць. У міжчасе зьбегліся два фактары: Расшыфраваньне тэксту і беларускія студэнты ў Празе чэскай. Хто быў зь Вільні ў тым часе ў Празе, я ня чуў, але адно было пэўным - Ян Станкевіч быў.

Аўтар цытаванага артыкулу не падае даты, калі "Аль-кітаб" быў высланы зь Вільні ў Прагу, але ён падае тры даты: 1923 і дзьве даты 1926, з гэтага я раблю выснаў, што ў часе, калі тэкст надыйшоў да Яна Станкевіча ў Прыгу, ён ня быў адзін. Марыля напэўна была ўтаемнічана у справу адчытаньня нявдамага тэксту, або знайсьці некага сярод студэнтаў ці прафэсуры, хто лёгка прачытае "непрачытальнае".

Узьнікае пытаньне, які ўдзел тут можа бацьь Яна

Станкевіча. Ёсьць падаставы здагадвацца, што галоўную ролю тут мусіла згуляць гасп. Марыля, як чалавек рэдка спатыканых здольнасьцяў, інтэлігэнцыі.

Да гэтае пары ўсё апавяданьне ідзе гладка і лягічна і даходзіць да таго часу, калі Ян Станкевіч атрымлівае рукапіс "Аль-кітабу". Што і як трэба казаць цяперака? Тут В. Станкевіч мае труднасьці і кажа: "... пазьней высланы /тэкст, Я.П./ да разьведаньня студэнту-мовазнаўцу ў Празе". Тут сказана ўсё і адначасна нічога. Хто ёсьць гэты "студэнт-моваведы"? Агульна можна сказаць, што ёсьць іх два зь няроўным моваведствам. Марыля стаіць на першым месцы, Ян – на другім. І хто яшчэ?...

У Празе Марыя была сваім чалавекам. З прычыны яе моваў і паставы заходня-эўрапэйскае разам з тактам, яна ініцыятыву і пяршынства адступае знаёмаму беларусу зь імем Ян Станкевіч.

Характэрным тут выступае той факт, што дадзеныя з досьледу Аль-кітабу, падаюцца ў чэскай і беларускай мове адначасна з датаю 1933 году:

**Přispěvky k dějinám běloruského jazyka na základě rukopisu Al-Kitab.** (Slavie, ročník XII, sešit 3-4), Praha. 1933.

**Беларускія музульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом.** (Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства, кн. I). Вільня, 1933.

Вельмі магчыма, што пераказваючы матэрыял з Пра-
гі ў Вільню, Янка, як чалавек, мог у нейкіх асаб-
лівых словах, прыпісаць сабе матыў удзячнасьці. З дру-
гога боку, была гэта пара духовае галіты і, кажны
знойдены ґрош, кідаўся ў вадну беларускую скарбон-
ку. Зноў-жа, В. Станкевіч пра здарэньне, піша ся-
гоньня, якое месца мела магчыма некалькі гадоў да
ягонага нараджэньня, дык нічога дзіўнага, што ўся
справа для яго яшчэ няшмат ведамаю астаецца, а гасп.
Пруські, каторы, кіруючыся ахвотаю памагчы сваім клі-
ентам, ня ведае, што рабіць з гэтым фантам.

Мы, каторыя жылі сумесна і разам спажывалі сумпольную страву, павінны пачувацца, што вобраз Яна Станкевіча мае быць пераказаны намі Гісторыі ў сьвятле чыстае Праўды.

Аль-кітаб з пункту гледжаньня, як дагэтуль, нашае цьмяное мінуўшчыны, зьяўляецца важным гістарычным дакумэнтам, які паказвае на межы літоўскае мовы ў шырака распасьцертых межаў Вялікага Княжства Літоўскага.

Бяручы пад увагу вялікія зьіначаньні палітычных межаў у аграмадна распасьцертым гаспадарсьцьве, званым Пэрсыяю, выступаюць меркаваньні што слова Аль-кітаб الكتاب магчыма ёсьць пісаным у пэрскім стылю.

=====

В. Станкевіч, расказваючы нам пра свайго бацьку ў Беларускім сьвеце, стварыў для сябе непатрэбныя і балючыя труднасьці ў тым сэнсе, што пра свой аб-ект гаворыць у супэрлятывах. Фактычна, аўтар не адыйшоў і ад праўды, бо сам Янка пра самога сябе ня думаў інакш і ўтрымліваў пазыцыю, што, калі хто-небудзь нешта ведае, дык ён перад усім і найболей. Ён выходзіў з залажэньня, што ён адзін і толькі ён на эміграцыі ведае беларускую мову і ўсё іншае зь ёю. Што-праўда атмасфэра для гэтага на эміґрацыі была казачнаю. Яна тварылася для прафэсара перад вайною і асабліва пасьля вайны. Ня кажны меў даволі адвагі, каб устаць і запярэчыць "дохтару", а ён сугэтак далёка зайшоў у сваім зашахаваньні сваіх суродзічаў, што нарэшце пачаў верыць у самога сябе.

Тут выступае аналёгія ў хворме пытаньня. Як інакш мог ён перакладаць Курс нядзельнае школы?

Вярнемся ў нашым апавяданьні ў Вільню.

Тут, як выглядае, завязаўся ґордыйскі вузёл.

Добраму чалавеку здаецца, што ўсе людзі добрыя. У гэтым выпадку добраю была Марыя, жонка Янкі. Яна ведала, што ён быў і тым і гэтым, ведае гэта і тое.

Прыбыўшы ў Вільню, Марыя хутка запазналася і заприязьнілася зь дзьвюма амэрыканскімі місыянеркамі, Міcс Браўн і Міcс Пайрон. Добрым даверам і падобнымі перакананьнямі служыў яшчэ і той факт, што гасп. Марыя свабодна гаварыла і па-ангельску. Тут місыянеркі даведаліся пра ўсе веды Марыльчынага мужа і бачылі ў гэтым вялікую нагоду добрае супрацы. І хутка, праўдападобна, дайшло да таго мамэнту, калі Янка пачаў перакладаць з ангельскае мовы на беларускую добрых памераў кніжку п.т. Курс нядзельнае школы. Фізычна кніга добра выглядала, але як і якім спосабам перакладаў чалавек на беларускую мову тэкст з мовы, якое ён ня ведаў, дый апрача гэтага свая мова ў тым сівым часе яшчэ не разьвілася дастакова. Нятрудна здагадацца, што ўвесь цяжар перакладу ўпаў на плечы Марыі, каторая цяпер толькі пачынае пазнаваць глыбіню ведаў свайго мужа і беларускую мову глыбей. — З гэтуль ангельская мова, чэская і беларуская, знаўца якое расперазаў волю свайму веданьню. — Вынік? — Поўны развал з перакладам і расчараваньне зацікаўленых людзей на восі Вільня — Варшава.

Курс нядзельнае школы гэта кніжка, якая абыймае сабою 28 лекцыяў для дзяцей. Выдадзена Польска- амэрыканскаю акц. супалкаю Southern Trade і друкавалася ў друкарні У. Знамяроўскага ў Вільні,Квашэльная 23.

Я прапрацаваў на т. зв. Крэсах Всходніх ладне часу, але пра гэтую кніжку ніколі ня чуў і ніколі ніздзе ня бачыў яе. І толькі пару гадоў пасьля "заканчэньня" Другое сусьветнае вайны,у Лінцу над Дунаем, пастар Эрнст Наўзнэр падараваў мне гэтую кніжцу, кажучы: "Магчыма табе яна калі-небудзь спатрэбіцца." Чытаючы гэтыя Курсы, я знайшоў дзіўную беларускую мову зь некаторымі памылкамі ў словах, як расказаць і разкажу, жчэзла і шчэз і падобныя.

Тут нічога ня кажацца, хто перакладаў, зь якое мовы і на якую. Гэтаксама нічога не гаворыцца дакладней пра перакладчыка, і толькі па мове перакладу пазнаецца, што перакладаў Ян Станкевіч.

Ананімнасьць перакладчыка паказвае на тое, што сам перакладчык праўдападобна ня быў пэўны, што да якасьці беларускае мовы і перакладу.

Падобнае зьявічша міжвольна вядзе да выснаву, што гасп. Марыя, каторая цяперака толькі запраўды пачынае пазнаваць, як шмат адукаваным ёсьць яе муж. Апрача падобнае спасьцярогі, яна мусіла перажываць сорам у вабліччу прысутных тады ў Польшчы амэрыканцаў і ў першую чаргу перад яе прыяцельніцамі місыянаркамі. Гэтаксама і місыянаркі мусілі ў Варшаве нейк апраўдвацца перад сваімі суродзічамі, каторыя рэпрэзэнтавалі сабою Борд оф Міссыён, тады у Нэшвільл, Тэннэссі. Тут, магчыма, супрацаўнікі давалі жанчынам зразумець, што ня можна ўваходзіць у ваду, няведаючы, як глыбокаю вада можа быць.

Перад усім паміж Марыляю і Янкам мусілі быць частыя і доўгія і кароткія гутаркі са спрэчкамі і закідамі пад адрэсам адзін аднаго і з дасьведчаньнем што ня можна падымаць камень, ня ведаючы, як цяжкім камень ёсьць. З пункту глежданьня беларускага? – рэпрэзэнтацыя за мяжою ніжэй нуля.

Пасьля ўсяго выступае на ўзьверх доўгая вось – Курс нядзельнае школы – на адным канцы і біблія – на другім. Пасьля ўсяго на гэтай восі бачым малыя і дробныя рэчы: невялічкія слоўнічкі, поўныя супярэчнасьці; перагляд нейкіх дзеравенскіх словаў і спрэчкі без дай прычыны; і нарэшце – біблія, поўная памылак і дзікіх супярэчнасьцяў /аб чым пазьней/.

Апінія тут выражана ня ёсьць абавязкава толькі маею. Беларускія эміграцыйныя друкі перапоўнены, у тым ці іншым пэрыядзе часу і насычаны падобным матэрыялам.

Для прыкладу: Капрысная зьмена тэрміналёгіі якая, праўдападобна, залежыць не ад якіх-небудзь праваў філялёгіі, а барджджэй ад пагоды, ад дрэнна праспанае ночы ці іншых фізычных фактараў, як ад цяжкога траўленьня прынятае стравы ці падобных фізыялёгічных функцыяў людзкога арганізму, будзіць у В. Мікалаені сумліў і засьцярогі.

Аднойчы ён пісаў у "Бацькаўшчыне":

"Што да другадня замест аўторка, – кажа Мікаленя, – можна было-б згадзіцца, калі-б была пэўнасьць, што праз год, скажам, нехта ня ўспомніць, што недзе замест серады гавораць трэцядзень. Ізноў будзе прапанавацца зьмена, а такога роду зьмены выклікаюць і ў сваіх, і ў чужых ураажньне аб тым, што беларуская мова яшчэ ня мае ўстаноўленага слоўніка самых штодзенных і элемэнтарных словаў".

# КУРС НЯДЗЕЛЬНАЕ ШКОЛЫ



ВІЛЬНЯ — 1930
ВЫДАНЬНЕ П.-АМЭРЫКАНСКАЕ АКЦ. СУПАЛКІ
„SOUTHERN TRADE“.

## ЛЕКЦЫЯ 14-ая.

# Раськідонлівы сын.

Лук. 15, 11—32.

**Залаты верш: „Гэтак, кажу вам, будзе радасьць у вангелаў Божых з аднаго грэшніка, каторы пакаецца“.**

Лук. 15—10.

### Показі да навукі.

*Уступ:* Прыпамінаем спачатку лекцыю зь мінулае нядзелі. Каму наўперад было запрапанавана гаспадарства Божае? А каму пасьлей? Як аднесьліся да гэтае пропозыцы адныя і як другія? Мытнікі й грэшнікі знайшлі ласку і сталіся грамадзянмі гаспадарства нябеснага (прыклады). Якое пачуцьцё выклікаў гэты факт у Фарысееў? Абурэньне. Якімі словамі яны гэта выказалі? „Гэты грэшнікаў прыймае...“ Прадстаўлялі яны ўсю справу так, як быццам Ісус дзеля таго ўходзіў у прыязьнь з грэшнікамі, каб зь імі разам грашыць. Каб памагчы ім ахамянуцца, расказаў Ісус гэткую прыповесьць.

*Выклад:* Гэтую гісторыю чытаем або апавядаем памагчымасьці найбалей наглядна паводле гэт'кага парадку:

1. Выхад із дому.
2. Туга па доме.
3. Паварот дамоў.

*Паглыбленьне:* 1. Выясьненьне прыповесьці. Ацец: Бог. Раськідонлівы сын: чалавек, жывучы воддаль ад Бога. Дзель маемасьці: матар'яльнае й душэўнае дабро, каторым Бог надарыў чалавека, пакідаючы яму вольную волю карыстацца імі, прыкл. грошы, розум, здольнасьці, уплывы, здароўе і г.д. Усё гэта людзкі эгоізм раськідае г. зн. злоўжывае, ажно, напасьледак, нічога не астанецца. Чалавек, жывучы воддаль ад Бога, не здаваляецца тым, што мае, але хацеў-бы раскашавацца. Колькі-ж гэта сыноў пайшло ўжэ сьлядамі раськідонлівага сына! Тое самое можна

на практыццы тое, аб чым чулі. Нашым заданьням ё ня толькі расказаваць дзяцём біблійныя гісторыі, але й узгадаваць іх на людзёў дзела. Трэба прыпомнець дзяцём гісторыю аб Марыі й Марце. Зьбіраемся тут што нядзелі і слухаем, як Марыя, словаў Спасіцелевых; але ня маем забывацца аб тым, што можам вельмі многа навучыцца й ад Марты. Марта папрасіла Яго ў госьці. Прачытайма тож, што сказаў Спасіцель Мацьв. 18, 2 і 25, 40.

Дык чаму-ж бы мы, як нядзельная школка, не маглі хоць раз зладзіць чэсьці бедным, сьляпым і калекам? Дзе немагчыма гэтага правесьці, можна-б за ахвяры з колькі нядзеляў купіць розных ласонікаў і паслаць у прыпынак калекім дзяцём або навет выраслым і гэтак зрабіць ім радасьць.

Бяссумлеву было-б шмат харашэй, калі-б дзеці самі папрасілі такіх гасьцёў да сябе ў нядзельную школку. Маюць яны да будучае нядзелі час добра надумацца, а потым зрабіць адпаведныя пропозыцы. Праграма чэсьці мае быць разгледжана ажно да дробязі. Але наўперад дзеці павінны скласьці на гэтую мэту адумысловыя ахвяры, пры тым не канечне гатоўкаю, але таксама натураю, прыкл. чакаляду, садавіну, краскі і г. д. Падумаўшы, каго пазваць, трэба прыступіць да пісаньня запросінаў. Гэт'кім спосабам цікавасьць дзяцей будзе некалькі нядзеляў удзержавацца напятай. Што могуць дзеці зрабіць самі, няхай тое зробяць. Потым трэба напісаць праграму. Выбіраюцца найхарошшыя песьні; мае тож быць месца на дэклямацыі на кароткія вершыкі. Ведама, што кожны з гасьцёў павінен дастаць часапіс або які адумысловы падарак.

Напасьледак, прыходзе даўгажданы дзень. Адныя засьцілаюць сталы, другія прыбіраюць залю. Па некаторых з гасьцёў трэба навет асабіста пайсьці, потым сардэчна іх прывітаць і паказаць месца. Трое дзяцей раздае песельнікі, іншыя йзноў разносяць ласонікі. Працы гэтулькі, што кожнаму дзіцяці знойдзецца якаясь работа. Трэба дагледзіць, каб *усі* дзеці прынялі ўчасьце ў нясеньню радасьці іншым!

Трэба тож не забывацца аб аднэй вельмі важнай рэчы, г. зн., каб што нядзелі ў малітве з дзяцьмі прасіць благаслаўленьня для проектаванае чэсьці.

## ЛЕКЦЫЯ 17-ая.

# Памазаньне Давіда за караля.

1 Сам. 16, 1—13.

Залаты верш: „Але што дурнога ё ў сьвету, тое выбраў Бог, каб застыдзіць мудрых; і што ё слабога ў сьвету, выбраў Бог, каб застыдзіць дужых".
1 Кор. 1, 27.

### Выясьненьні.

Із собскае віны стаўся Саула няздольны быць гаспадаром над Ізраілям. Віна ягоная была ў невыпаўненьню агранічэньнеў, зробленых Богам, а пайменна: у нарушэньню паслухмянасьці слову Божаму. Астаўся ён, праўда, каралём аж да сьмерці, але ўваччу Божым страціў каралеўскую дастойнасьць з часіной адвярненьня ад Бога. Дзеля таго яшчэ за гаспадараньня ягонага Бог зрабіў новыя выбары каралеўскія, выбіраючы сабе чалавека „паводле сэрца Свайго", пераз каторага мог ужыцьцёвіць Свае пляны.

В. 1. Не дарма немарасьціўся Самуіл з прычыны ўпадку Саўлы, бы раськідонлівага сына; Самуіл бачыў, як гэты чалавек робіцца ўсё вялікшым тыраном. Як цяжка яму было тады, калі мусіў уступіць перад дамаганьнем народу абраць караля і як балюча было цяперака, калі бачыў, што той, каторага собскімі рукамі памазаў за караля, аказаўся неадпаведным! Адно новы загад Божы вырывае яго з балючага задуманьня. Бог не пакідае так лёгка якойсь працы, дарогі-ж дзеяньня Ягонага бягуць паводле наперад прынятых плянаў, а вочы Божыя шмат раней, чымся гэта было магчыма якому-колечы чалавеку, угледзілі ў сям'і Ісаіевай з пакаленьня Юдавага мужа, каторы меў быць Спасам сьвету.

В. 2—3. Страх Самуілаў за жыцьцё сваё апраўдаваўся злосьцяй, каторую меў да яго Саўла (в. 14) і дае нам адначасна вы-

На бачынах Бацькаўшчыны /№250/ знаходзіцца доўгі артыкул Яна Станкевіча, у якім ён займаецца беларускімі словамі. У гэтым артыкуле, сярод іншага, ён кажа: "Пажадана, каб у пытаньнях, каторыя я закранаю, выказваліся і неспэцыялістыя". На гэты заклік гасп. В. Мікалаеня гэтак адказвае:

"Карыстаючы з ласкавых запросінаў да выказваньня таксама і неспэцыялістых, скіраваных сп. др. Я. Станкевічам у 'Кутку Мовы' у нумары 280 "Бацькаўшчыны", дазволю сабе выразіць некалькі заўвагаў у справах парушаных у вышэй азначаным артыкуле.

Каб выказацца ў справе хлеба, які мы спажываем кажны дзень, зусім ня трэба быць пекарам.

Мова чалавека зьяўляецца гэтакім самым духовым 'хлебам' штодзенным і кажны чалавек мае права мець свой уласны пагляд і свой уласны смак гэтага 'хлеба'. Памылкаю ёсьць думаць, што быццам мову тварылі ці твораць 'спэцыялістыя'. І ня толькі гэта: мова кажнага народу зьяўляецца калектыўным прадуктам на працягу пакаленьняў якраз 'неспэцыялістых'.

Ужо павярхоўны агляд даступных для нас моваў іншых народаў, кажа нам, што часта звычайныя людзі сваім звычайным пісаньнем, якое пазьней названа творамі, літаратурнымі творамі, памяткамі мінуўшчыны і г. д., тварылі зьмест, думку дадзенага народу, што пазьней названа літаратураю. Характэрным ёсьць зьявішча, што вельмі часта сярод розных народаў пераказаным пакаленьням 'літаратурныя' пэрлы, былі як раз напісаны простымі людзьмі, простаю моваю. І творы, як мы іх цяперака называем, паўсталі бяз ціску зьверху гэтак званых 'навучоных'. Мы не нэгуем важнасьць адукацыі як гэткае, але мы хочам сказаць і падчыркнуць гэта, што апрача ўсіх навукаў і мастацка выпісаных пасьведчаньняў, патрэбна далікатнае вычуцьцё характва і прыгожасьці дадзенае мовы, гэтаксама як і глыбіня выказванае думкі".

На іншым месцы В. Мікалаеня распраўляецца з рознага роду "філялягічнай" адсябяцінай, перакручваньнем словаў і ўводжаньнем у беларускую літаратурную мову зьінчаваных простымі і няпісьменымі людзьмі агульна прынятых словаў на іншым месцы ведамых словаў.

Ён[Я. Станкевіч]сьцьвярджае, што ад " перакручваньня не заўсёды ўсьцерагаюцца і людзі вучоныя".

Паказваючы на 21-23 "Веды", рэдагаванае др. Я. Станкевічам, дзе гэмоглёбіну перапутана з гаммай глёбуліну і на іншым месцы стрыхніну із трыхнінай, В. Мікалаеня прыходзіць да высваву: "не магу пазбыцца думкі, што падобныя вывады не зьяўляюцца аднак, філялёгіяю, толькі звычайнай няведай".

# МОВАВЕДА і МЫ

Мовaведа ці філялёгія /з гр. φιλολογία / значыць гэтулькі, што любіць слова, як гэткае; вывучаць словы або мову; любіць гаварыць прыгожа; навука або вывучаньне ці пазнаваньне прыгожае мовы; любоў ці ахвота да дыскусыі...

Янка Станкевіч першабытна называўся імем Ян. Пазьней, як кажа В. Станкевіч, пасьля атрыманьня ў Празе"дактарату славянскае мовaведы і гісторыі". прыходзіць у сваім пазнаньні да пераканаaньня, што ягонае імя не павінна быць Ян, але Янка і пачаў называцца Янкам. Гісторыя на эміграцыі хацела, што "навука" Янкі трапіла ў вадпаведнае "культурнае"асяродзьдзе і амаль усе мужчынскага паходжаньня людзі пачалі зь Янаў пераходзіць на Янкаў; адзін зьінaчвае і другі гэта самае робіць і пайшло... Але не пасьпелі ўсе ўправіцца з перарабліваньнем сваіх імёнаў, як наш першабытны Янка, прыйшоў да пераканаaньня, што ён памыліўся і ня ёсьць Янкам, але Янам. Чуючы і бачучы што сталася, шматлікія ягоныя пасьлядоўнікі гэтаксама пачалі ўцякаць ад памылкі і выпраўляць як хто можа свае імёны. Іншыя з прычыны свае сарамяжнасьці так і гэтак пішуць свае імёны.

Я сягоньня пытаюся, ці гэта ўсё мае якое-небудзь дачыненьне да навукі? Гістарычная праўда тут ляжыць на іншай плошчы. Усё залежыць ад таго, у якіх суадносінах знаходзяцца людзі, бо ад гэтага імёны прыймаюць іншы гук і калярыт. Маці маленькага сыночка можа назваць Янкам, Яначкам, часамі нават Яначачкам. Закаханая дзяўчына можа называць свайго хлапца Янкам; жонка - мужа...

Адносна нядаўна выдаваўся беларускі часапіс п.т. "Крывіч". *) Да гэтага даходзяць тут і там аднаіменныя вёскі, дык з гэтага выснаў - крывічы, а не

---

*) Сягоньня, калі пішу пра гэта,спасьцярожным стаецца, што ўжо на пачатку нашага стагодзьдзя, Беларусы /Ластоўскі/ спасьцерагаюць сваю гістарычную недакладнасьць у нашым нацыянальным назове. Ластоўскі ведае, што мы літоўцы і нашае імя Літва і Вялікае Княства Літоўскае, але тое, што ён піша, піша ўжо ў Літве /= Летува/ і гасьціннаю ёсьць для яго і аднaчасна зайздроснаю можа быць што да свайго імені. Тады тагачаснаму дзеячу астаецца адзін выхад - называцца Крывічом і гэта ён учыніў, агалошваючы на ўвесь сьвет, што мы не зьяўляемся беларусамі.

беларусы, і згэтуль наш край - Крывія, а мы крывічы. Тады крывічы. - І пайшло - крывіцкі, крывіч, крывічы, Крывія. І народ /што найменей на эміграцыі/ на рахітачна культурных нагох падзяліўся на крывічоў і на беларусаў. І што мне зробяць? - думаў ён. І запраўды, што можна было зрабіць пры гэткім немалым выбары ў назовах.

І гэтак трывала аж да часу, пакуль не зьявіўся на гарызонце прыпадкавы чалавек і расталкаваў яму, яму гісторыку, як гэтая справа гістарычна прадстаўляецца. Чалавекам гэтым быў а. Робэрт.

Але паслухайма, што сам аўтар, В. Станкевіч у ўспомнутай працы на бб. II-I3 кажа: "... у Янкі Станкевіча ўжо з маладосьці закаранілася трывалкасьць, або на думку іншых - упартасьць, шмат мацнейшая рыса характару, чымся лагоднасьць да іншых і, нажаль, часта і да супрацоўнікаў. У той час большая частка беларускага незалежніцкага актыву прыняла і прапагавала нацыянальны назоў Крывічы, але многія, бачачы недахоп агульнае падтрымкі, згубілі свой энтузыязм. Янка Станкевіч, хіба найдаўжэй публічна застаўся ўпорыстым Крывічом. Апрача гэтага, сваім моцным і афіцыйным /? - Я.П. /, уводжаньнем рэформы /? - Я.П./ ня ўсім знаёмых словаў, вымаганьнем адведваньня так зв. Народнага Унівэрсытэту /дзе? Я.П./, здабыў сабе зацятую варожасьць некаторых беларусаў".

Наколькі Ян Станкевіч прэтэндаваў быць вучоным у шматлікіх галінах навукі, нагэтулькі быў ён перашкодаю культурнага прагрэсу на эміграцыі. Гэта зайшло ў яго гэтак далёка, што спатрэбіўся чалавек з Рыму, каб навучыць яго. Паслухайма, што далей гаворыць В. Станкевіч пра свайго бацьку:

"У 1959-ым годзе адведвае яго з Бэльгіі ведамы апякун беларускіх студэнтаў а. Робэрт Ван Каўэлярт, абазнаны ў старыннай эўрапэйскай гісторыі, і ў доўгай гутарцы адносна назоваў нашага народу ведамых у Заходняй Эўропе, выказвае меркаваньне /факт - Я.П./, што назоў Крывія ды розныя формы назову Беларусь, мала ведамыя ў гісторыі Эўропы /ранейшае пары - Я.П./. Затое-ж паняцьце Вялікага Княства Літоўскага, або Вялікае Літвы, ведамыя і гістарычна слаўныя. У гэтакі спосаб зарадзілася думка і Янка Станкевіч пачынае з гэтага часу папулярызаваць назоў Вялікаліцьвін, Вялікалітва, гэтаксама ўпорыста /і памылкова - Я.П./, як раней папулярызаваў Крывіч, Крывія".

Тут выразна выступае ў Янкі паталягічная прабле-

ма, якая выражаецца ў тым, што да пазнанае ім рэчы ці пачутае праўды – зараз-жа ўводзіць папраўкі ці дапаўненьні, зьначаньні і перакручваньні, каб самому стануць, без апраўданьня, на чало і стацца правадыром беларусаведы, гісторыі, патрыятызму... Цяперака ён навучыўся ад чалавека з Рыму, што тое, што мы ў нашых днях называем Беларусь у мінуўшчыне называлася ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ. Янка адразу падхоплівае пачутае і пачынае папраўляць і перакручваць, і пайшло: Вялікая Літва, Вялікаліцьвін, і вялікалітвін, і зараз-жа папулярызуе "гэтаксама ўпорыста, як раней папулярызаваў "крывіч", "Крывія". Ведама, да яго зараз дайшоў нейкі асталоп і пачынае прапагаваць Вялітва. Яшчэ нейкі ўмека паявіўся на Беларусі і пачынае нашае гістарычнае і сьвятое імя Вялікае Княства Літоўскае пісаць ініцыяламі В.К.Л.

У канспэкце гаворанага мне прыпамінаюцца дзеці ў вёсцы Вайнілаўцы /7 кілямэтраў на поўнач ад Дзярэчына/, каторыя ніяк не маглі выгаварыць слова Беларусь, а ўсё казалі Бералусь. Тады ўзьнікла ў мяне думка, што толькі нявінныя дзеці кажуць нам праўду: Слова "Беларусь" ня ёсьць нашага паходжаньня. Яно: расейскага паходжаньня. Расейцы заграбуць суседнюю краіну і хутка надаюць сваё расейскае імя; згэтуль: Русь, Белая Русь, Беларусь, /а за гэтым сьледуюць машэньнікі і твораць "навуковае" апраўданьне грабежы/; далей: Малая Русь, маларус, маларос, Кіеўская Русь; Вялікая Русь; Чырвоная Русь...

Пра сустрэчу Яна Станкевіча з а. Робэртам чытаю тут першы раз. Гасп. В. Станкевічу належыцца ўзнаньне з падзякаю.

Імёны: Вялікае Княства Літоўскае, Літва былі імёнамі ўчарашняга дня, зьяўляюцца слаўнымі жывымі сьведкамі сягоньня і будуць імёнамі нашае краіны заўтра. Гэтак, як і Адам Міцкевіч, наш паэт сьцьвярджае:

Літво! Бацькаўшчына мая!

Задзіўляючы падобную аналёгію спасьцерагаю я паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Вялікаю Брытаніяю. Дзе вытокі гэтага? У сівыя часы мераю былі прастора засяленьня і культура.

Чалавек жыве сягодняшнім днём. Часта думае пра дзень заўтрашні: вылівае воск у халодную ваду, чаравік кідае за вароты, наведвае варажбітак; і зязюлю кліча на помач... Ён хоча пазнаць сваю будучыню.

Інакш рэч маецца з чалавекам інтэлігэнтным. У залежнасьці ад ступені разьвцьця ягонага інтэлекту, ён хоць і думае гэтаксама наперад, усё-ж, абяртаецца і ў напрамак мінуўшчыны, пачынае думаць - дзе і калі пачаўся ягоны дзень учарашні? Зь якога часу пачынаецца наша літоўская гісторыя? І цяперака пачынаецца труднасьць, ня толькі з навязаньнем кантакту зь літоўскім першапачаткам, але і перамагчы яе. І падобнае зьявішча назіраем у гісторыі кажнага народу. Галоўнаю прычынаю падобнага зьявішча ёсьць той факт, што ў тых сівых першапачатках людзі ня ведалі, што гэта такое пісаць пратакол або справаздачу, для прыкладу; бо гістарчыная запісь, як мы ведаем яе сягоньня, тады на Вечы ня была ведамаю. І сталася гэта з тае прычыны, што людзі таго часу ня ведалі "штукі з заломам". Праўда, існавалі вусныя пераказы і яны маглі якісьці час трымацца ў памяці пакаленьняў, але пасьля губіліся ў людзкай памяці пакаленьняў і ставаліся міталёгіяю...

Аб'ектыўныя гісторыкі, або гісторыкі ў поўным значэньні гэтага слова, і іх слушна трэба называць гісторыяґрафамі, каторыя, калі напатыкаюць труднасьці, прызнаюцца да іх і гэтым кажуць праўду ў тым сэнсе, што яны ня ўсё ведаюць і, што першапачаткі ў бяздонным часе і, як дагэтуль пазнаньне іх ёсьць рэчаю труднаю, калі наагул магчымаю. Затым у іх напатыкаем гэтакія выражэньні як: "Ёсьць труддным сягоньня", "праўдападобна", "магчыма", "трэба здагадвацца" і падобныя неакрэсьленасьці. Тут крыюцца выражэньні праўды чэсных гісторыкаў, каторыя выводзяцца з народу і парахня ашуканцаў яшчэ не пасьпела падарваць іхнага сумленьня, і трымаюцца канцэпту Свабоды думкі і слова.

Пра тых "гісторыкаў", каторыя радзіліся ў няволі, мы ня будзем гаварыць. Усё роўна ў якой ступені іхнае паняволеньне зьяўляецца, мы ня будзем успамінаць, бо іхнае пісаньне, вымучанае рознымі цэнзарамі і поўцэнзарамі, і іхны пераказ пра мінуўшчыну ня мае вартасьці ў сьвятле фактаў.

Гэта яны, гэтыя апошнія былі, каторыя стварылі на сьвеце пагляд, што прадмет навучаньня гісторыі наагул не зьяўляецца навукаю.

Пэрыяд нашае граматнасьці прыйшоў адносна нядаўна, прыблізна тысячу гадоў пасьля нараджэньне Хрыста. І гэта дазваляе нам збольшага пазнаваць гістарычны час Вялікага Перасяленьня Народаў. Якіх? - Збольша ведамых нам.

ВЯЛІКАЕ ПЕРАСЯЛЕНЬНЕ НАРОДАЎ у гісторыі - гэта чараватая ў падзеі тэма, каб заняцца ёю тутака і абыймае сабою шматлікія народы на працягу доўгага часу. Але ў нашым углядзе, абмінаючы Далёкі Ўсход, мы павінны зьвярнуць увагу на старажытную Грэцыю, бо тут ляжыць пачатак нашае культуры. Згэтуль наш шлях вядзе ў Рымскую імпэрыю і на поўнач аж да аграмаднае ракі Дунаю, які пачатак свой бярэ з водаў дзьвюх невялічкіх рэчкаў, што спатыкаюцца на ўсходніх схілах Шварцвальду.

Пэрыяд перасяленьня народаў, як яго прынята называць, прыпадае прыблізна на 4-тае ст. да нашага часулічэньня і 7-мае ст. нашае эры. За выняткам ведамых ужо народаў - Грэцыі і Рымскае імпэрыі, шматлікая людзкая маса, асабліва на левым баку ад Дунаю, з сямейнага і радовага ладу кідала адно насельне да росту таго, што мы сягоньня разумеем пад словам <u>народ</u> або <u>нацыя</u>.

У далейшым разьвіцьці гэтага працэсу нашую ўвагу прыцягваюць да сябе два вялікія гістарычныя целы - Вялікабрытанія або Вялікая Брытанія з аднаго боку, і з другога - Вялікае Княства Літоўскае або Літва.

Вялікабрытанія разьмясьцілася на прасторы аграмаднае масы меншых і большых абтокаў са спазорам гэтаксама вялікага далягляду няведамага. Калі там недзе знаходзіцца канец, тады, што там ёсьць? І спатрэбілася шмат стагодзьдзяў, каб атрымаць адказ на тайніцы, сукрытыя ў водах і за водамі.

Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася на сушы зь велічэзным даляглядам ад мора да мора. Тут непраходныя лясы і пушчы, нязьлічаныя багацьці ў морах і насушы, на зямлі і пад зямлёю, як вокам кінуць - пладатворная маці Зямля, з рэдка спатыканымі рыбнымі вазёрамі і ракамі,а ў нетрах зеленьні плодзяцца нязьлічаныя стады зьвер'я.

Але здарылася /бяз прычынаў нічога не здараецца/ што дзьве гэтыя велічыні: Брытанія і Літва - пайшлі двума рознымі гістарычнымі шляхамі. У рэзультаце, Брытанія стварыла сынанім: "Англічанін мудрэц", а Літва - "Я буду жыць! - бо я мужык!"

У пасьлядоўнасьці агульнага поступу чалавека, а пазьней народу і народаў,на Захадзе пачаўся культурна-інтэлектуальны рух пад назовам Рэнэсанс, а за ім рэлігійна-навуковы бунт - Рэфармацыя. Два яны былі пратэстам супроць учарашняга дня з дамаганьнем для чалавека Свабоды, Справядлівасьці, Навукі...

Вельмі характэрна, і можна з пэўнасьцю сказаць, што ў Ватыкане ў альфабэтычным і пратакольным парадку перахоўваюцца запісы ўсяго таго, што ў такой хворме ці іншай вязалася з пашырэньнем у Вялікім Княстве Літоўскім вуніяцтва. Там ёсьць дакумэнты з назовамі гаспадарстваў, якія так ці гэтак мелі ней кія суадносіны з езуітызмам ў нас. Знаходзяцца там іменныя выказьнікі ўсяе тагачаснае літоўскае арыстакрацыі, усяе шляхты на нашых землях, прозьвішчы і адрасы засьцянковае шляхты, да гэтакае ступені дакладныя, што ў часе намі перажываным, магчыма год таму дайшоў да мяне ў Флярыдзе ліст, у якім гаворыцца, што ў дакумэнтальных сьпісках шляхты у ваколіцах Слуцка, знаходзіцца прозьвішча Пятроўскі. Я, натуральна,не адказаў на ліст.

/Я не магу назваць інстытуцыі, якая ліст прыслала, бо архіў мой, як да гэтага часе, неўпарадкаваны/ У сувязку з тэмаю, прыпамінаецца мне наступнае: Мне, магчыма, было тады гадоў пяць-шэсьць. Я з маею сястраю Наташаю - гадоў 15 - знаходзіліся на нашых - трэба чытаць - праваслаўных,могілках. Ідучы, мы знайшліся недалёка царквы. Наташа, між іншым у гутарцы кажа мне: калі хочаш, я пакажу табе, дзе магіла нашага дзеда на польскіх могілках; пры гэтым яна ўзяла мяне за руку і мы пачалі пераходзіць даволі глыбокі і шырокі роў, які знаходзіўся паміж нашымі і"польскімі"могілкамі. Месца, дзе Наташа шукала магілы,было вельмі густа заросшым травою, розным зельлем, кустамі і рознай вышыні дрэўцамі. Сястра трымала мяне моцна за руку, памагаючы мне крочыць за ёю. Доўгі час вадзіла яна мяне туды і сюды, і нарэшце, яна сказала: "Вось дзе". Я глядзеў і нічога ня бачыў, аж пакуль не разгрэбла яна на бокі заросьліны. І цяперака я бачыў, што самое магілы або ня было, або мы ня бачылі. Але адно было спасьцярожным. Мусіць на ўзгалоўі магілы стаяў камень, як мне выдалося,цяжкога калібру і на ім умацаваны жалезны крыж. Пастаялі мы хвіліну і адыйшлі. З гэтага я раблю выснаў сягоньня, што ў Ватыкане ў тыя часы і на ўсякі выпадак ставілі каменьні на могілках як сьведкаў на прышласьць, што тут была гэтакая каталіцкая царква.

Згэтуль выснаў я раблю, што а. Робэрт Ван Каўэлярт не расказваў казкі Яну Станкевічу, але казаў нешта вельмі важнае, чаго, нажаль, Янка не агарнуў паважна сваім мужыцка-прымітыўным розумам. У гэтым дачыненьні больш кемным быў і беспрэтэнсыянальным наш звычайны чалавек зь імем Тарас Сайка.

Час мінаў і дзьве вялічыні разьвіваліся ў паралельна двух тых самых напрамках. Англія супроцьставілася рымскаму хрысьціянству і ўступіла на шлях пратэстантызму, што значыла ў тым часе, на шлях культурнага поступу. Ня гледзячы на рух рымска-каталіцкае царквы, ведамы пад назовам контррэфармацыі, Вялікабрытанія не ўступіла сваіх пазыцыяў і асталася вольнаю па сягоньняшні дзень.

Калі ідзе гутарка пра першапачаткавае духова-культурнае разьвіцьцё таго часу, Вялікае Княства Літоўскае ішло поруч зь Вялікабрытаніяю. Тут выступаюць гэтакія пэрсанажы, як Францішак Скарына, каторы,са свайго праслаўленага ім Полацку, адбывае падарожжа ў Заходнюю Эўропу, каб, авеяны протэстантызмам,даць сьвядоцтва, што ўсюды ёсьць людзі здольнасьці як і прыхільнікі Свабоды і Навукі.

Гэта быў ён, Леў Сапега, каторы, будучы ўзгадованы ў заходня-эўрапэйскім духу, прынёс да нас ідэю Права і на працягу гадоў у васяродзі сваіх літоўскіх людзей навукі, выпрацаваў і стварыў і выдаў друкам памятнік літоўскае хвалы пад тытулум СТАТУТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА.

Гэта быў ён, "адзін з самых адукаваных філялёгаў-гуманістаў свайго часу. Ён зрабіў вялікі ўклад у разьвіцьцё літоўскае мовы". Ягонае імя - Сымон БУДНЫ, вялікалітоўскі гуманіст, сацыялёг, гісторык, вучыцель у протэстантскай школе ў Вільні; кальвінскі прапаведнік у Клецку"; заснавальнік друкарні ў Нясьвіжы і выдаўца лічных сваіх пісаных працаў. Культурна, быў усебакова разьвітым чалавекам, праўдзівым філёзафам, каторы сваімі разважаньнямі выперадзіў нас да гэткае ступені, што шматлікія яшчэ і сягоньня не разумкюць яго, або баяцца разумець.

Гэтак разьвіваліся два вялікія гаспадарсьцьвеныя камплексы - Вялікая Брытанія і Вялікае Княства Літоўскае да тае пары, пакуль іхныя шляхі не пайшлі ў супроцьлежныя напрамкі.

Літва гэтаксама шчасьліва прайшла два першыя этапы заходня эўрапэйскага культурнага разьвіцьця, але ў трэйцім этапе - этапе контррэфармацыйным ня вытрымала і завалілася гэтак далёка, аж да страты свае палітычнае незалежнасьці.

"Ад 1420 г., калі гусыт Гэранім праскі ў Вільні пачаў лекцыі і адчыты, зьвяртаючы ўвагу жыхароў гэтага места на сваю навуку, Вільня на працягу болей як аднаго стагодзьдзя, бо аж прыблізна да канца

УУI ст. сталася цэнтрам свабоднае вымены думкі, культурнага ўздыму і прагрэсу. Тады на гэты стан рэчаў была зьвернута ўвага ў Рыме. У першай палове УУI ст. хутка адзін за другім прыбылі ў Вільню два папскія нунцыі.

У між часе з загадзя прадуманым плянам дзеяньня прыбылі сюды і езуіты. Пачалася контррэфармацыя З гэтае пары неталяранцыя і прасьлед, зьнявага і уціск кажнага інакшдумаючага ішлі нага ў ногу па лініі, падрыхтаванае езуітамі

Гвалт і разбой, рознародныя крыўды праваслаўным, як прыцягваньне іх у суды, забіраньне цэркваў праваслаўным і пераказваньне іх вуніятам - сталася сумным зьместам жыцьця.

Пад уплывам езуітаў кароль Сьцяпан Баторы, здабыўшы Полацак у 1579 г. падчас вайны з маскоўцамі, усе 8 праваслаўных цэркваў места, усе 7 манастыроў з усімі прыналежнымі маемасьцямі, адабраў ад правасланых і аддаў езуітам. Усё жыхарства Полацку было тады праваслаўным і для яго кароль пакінуў толькі адну катэдральную Сафійскую царкву. *)

Літоўцы ўсяго гэтага ня вытрымалі. Пачалася інгерэнцыя трэйціх дзяржаваў. Асьвета пачала занепадаць, няграматнасьць пашыралася, палітычная мудрасьць занікае. Край апынуўся ў палітычным хаосе. Пад напорам Маскоўскага княства Літва і Польшча губяць сваю палітычную незалежнасьць.

Разумнае выслоўе кажа: Упасьці чалавеку - ня сорамна; але ўпаўшы, ляжаць - гэта сорам!

З прыяцелем я гутару тэлефанічна:

- Які сорам для нас, - кажу я, - гэта-ж, як чуваць, 50 польскіх ксяндзоў прыехала на Беларусь?!

- Не, - адтуль чую я, - Не 50, але 150; і, як ведамым сталася, наступныя 150 падрыхтоўваюцца цяпер ака ў Польшчы ў каталіцкай сэмінарыі!

Здаецца, што я не памыліўся, калі 34 гады таму пісаў:

ЛІТВА - ТВАЯ ЗГУБА Ў РЫМЕ!

---

*) I Касяк, З Гісторыі Праваслаўнае Царквы Беларускага Народу, Нью Ёрк, 1956, б. 18.

# КАЛІ ГАВОРЫЦЬ АДАМ МІЦКЕВІЧ

З пункту гледжаньня патрыятычнага наш паэт пачынае словамі:

Літва! Бацькаўшчына мая! ты як здароўе...

Усе людзі на ўсім сьвеце, пры кажнай нагодзе жадаюць сабе перад усім "добрага здароўя". Бо нічога няма ў жыцьці найцэньнейшага для чалавека, як здароўе.

Тут Міцкевіч гаворыць нам пра сваю любоў да свае Бацькаўшчыны. Калі мы маем на ўвазе час, які знаходзіцца паміж жыцьцём Паэты і нашым, дык быў ён адносна нядаўны. Гэтак як мы сягоньня, ён бачыў тады вялічэзнасьць літоўскіх прастораў: упраўныя палі, нівы і сенажаці, лясы і пушчы, рэкі і вазёры - і ўсё гэта дыхала і дыша здароўем, Натураю... Ён бачыў Літоўскі Народ - добры, працавіты, спакойны ... Ён бачыў літоўскую шляхту, літоўскіх князёў; ён бачыў літоўскія хаты як і новапабудаваныя дамы з дварамі, з адумысна пабудаванымі брамамі; ён бачыў палацы нашы і замкі - сьведкі нашае апрычонасьці і славы.

У сваей нацыянальнай веры Ён напатыкаў сільны супраціў з боку літоўскіх ворагаў, каторыя прыкідваліся быць ягонымі сябрамі і прыяцелямі... і ён даваў адбой гэтак доўга, як доўга чалавек вытрымаць можа...

І ў гэтым няроўным змаганьні памірае сьмерцю Гяроя.

---

УВАГА: Нешматлікім з нас ведамым ёсьць, што Адам Міцкевіч да свайго твору Пан Тадэуш напісаў і Камэнтар, які тут падаецца ў цэласьці. Характэрным зьяўляецца Камэнтар тым, што ў ім словы беларускі, беларус... няведамымі ёсьць. Аўтар усюды ўжывае - літоўскі, Літва...

Я не пераклаў яго на беларускую мову, каб не паменшыць увагі да арыгіналу. Тэкст узяты з: Adam Mickiewicz, PAN TADEUSZ; Czytelnik 1954; Tekst na podstawie Wydania Narodowego ("Czytelnik" 1949).



[*W tytule utworu:*]

## OSTATNI ZAJAZD NA LITWIE

Za czasów Rzeczypospolitej Polskiej egzekwowanie wyroków sądowych było bardzo trudne, w kraju, gdzie władza wykonawcza nie miała prawie żadnej policji pod swymi rozkazami, a obywatele możni trzymali nadworne pułki, niektórzy nawet, jak książęta Radziwiłłowie, kilkunastotysięczne wojska. Żałujący więc, uzyskawszy dekret, musiał po egzekucją udawać się do stanu rycerskiego, to jest do szlachty, przy której była także władza wykonawcza. Zbrojni krewni, przyjaciele i powietnicy ciągnęli z dekretem w ręku i w towarzystwie woźnego zdobywali, często nie bez rozlewu krwi, dobra przysądzone żałującemu, które woźny legalnie tradował lub w posesję oddawał. Taka egzekucja zbrojna dekretu nazywała się z a j a z d e m. — W dawnych czasach, póki szanowano prawa, najmożniejsi panowie nie śmieli się opierać wyrokom, rzadko zdarzały się zbrojne napaści, a gwałt prawie nigdy nie uszedł bezkarnie. Wiadomy z dziejów smutny koniec księcia Wasila Sanguszki i Stadnickiego zwanego Dia-

błem. — Zepsucie publicznych obyczajów Rzeczypospolitej namnożyło zajazdów, które ciągle mieszały spokojność Litwy.

I

*S. 7:*

*Panno Święta, co Jasnej bronisz Częstochowy*
*I w Ostrej świecisz Bramie.*

Wszyscy w Polszcze wiedzą o obrazie cudownym N. P. na Jasnej Górze w Częstochowie. W Litwie słyną cudami obrazy N. P. Ostrobramskiej w Wilnie, Zamkowej w Nowogródku, tudzież Żyrowickiej i Boruńskiej.

*S. 12:*

*...ale nie myśl wcale,*
*Aby w domu Sędziego służono niedbale.*

Rząd rosyjski nigdy w krajach zdobytych nie obala od razu praw i instytucji cywilnych, ale je powoli ukazami podkopuje i roztacza. W Małorosji na przykład utrzymano aż do ostatnich czasów Statut Litewski, ukazami odmieniony. Litwie zostawiono całe dawne urządzenie sądów cywilnych i kryminalnych. Obierani więc są po dawnemu sędziowie ziemscy i grodzcy w powiatach, i sędziowie główni w guberniach. Ale że apelacja idzie do Petersburga, do mnogich różnego stopnia instancji, przy sądach więc miejscowych ledwie pozostał cień dawnej powagi tradycyjnej.

*S. 12:*

*...nim się Pan Wojski ubierze.*

Wojski (*tribunus*) bywał niegdyś z urzędu opiekunem żon i dzieci szlachty w czasie pospolitego ruszenia. Od dawnego czasu urząd ten, bez obowiązków, stał się tytularnym. W Litwie jest zwyczajem, iż osobom poważnym nadaje się przez grzeczność jakikolwiek tytuł dawny, który używaniem uprawnia się. Mianują na przykład sąsiedzi przyjaciela swego Oboźnym, Stolnikiem lub Podczaszym, zrazu w rozmowie tylko i w korespondencji, a następnie nawet w aktach urzędowych. Rząd rosyjski zabraniał podobnych tytułów i pragnąłby je śmiesznością okryć, a wprowadzić na ich miejsce tytułowanie podług rang swojej hierarchii, do której Litwini dotąd wielki wstręt mają.

*S. 13:*

*Podkomorzy już zjechał z żoną i z córkami.*

Podkomorzy, niegdyś urzędnik znakomity i poważny, *Princeps Nobilitatis*, za rządu rosyjskiego stał się tylko tytularnym. Sądził jeszcze niekiedy sprawy graniczne, ale na koniec i tę część jurysdykcji utracił. Teraz zastępuje czasem marszałka i mianuje komorników, czyli mierniczych powiatowych.

*S. 15:*

*Wojski z woźnym Protazym ze świecami w sieni...*

Woźny albo jenerał, wybrany uchwałą trybunalską lub sądową ze szlachty osiadłej, roznosił pozwy, ogła-

szał intromisje, robił wizje, przywoływał aktoraty etc. Pospolicie drobna szlachta urząd ten sprawowała.

S. 22:

*Biegali wszyscy za nim jakby za rarogiem.*

Raróg, ptak z gatunku jastrzębia. Wiadomo, że za jastrzębiami drobne ptastwo, szczególnie jaskółki, tłumnie upędzają się. Stąd przysłowie: latać jak za rarogiem.

S. 25:

*Że Bonapart czarował...*

Mnóstwo krąży powieści między prostym ludem rosyjskim o czarach Bonapartego i Suwarowa.

S. 26:

*Asesora z Rejentem wzmogła się uparta...*

Asesorowie składają policją ziemską powiatu. Wedle ukazów czasem bywają obierani przez obywateli, czasem naznaczani od rządu; ci ostatni zowią się koronni. Sędziowie apelacyjni zowią się także asesorami, ale tu nie o nich mowa.

Rejenci aktowi zarządzają kancelarią, dekretowi piszą wyroki, wszyscy zaś mianowani z ręki pisarzów sądowych.

S. 33:

*Co by rzekł wojewoda Niesiołowski stary.*

Józef hrabia Niesiołowski, ostatni wojewoda nowogródzki, był prezesem rządu rewolucyjnego w czasie powstania Jasińskiego.

S. 34:

*Białopiotrowiczowi samemu odmówił.*

Jerzy Białopiotrowicz, ostatni Pisarz W. Ks. Litewskiego, czynnie należał do powstania Litwy pod Jasińskim. Sądził więźniów stanu w Wilnie. Mąż dla cnót i patriotyzmu bardzo szanowany w Litwie.

S. 36:

*Woźny pas mu odwiązał, pas słucki, pas lity.*

W Słucku sławna była fabryka złotogłowu i pasów litych na całą Polskę; udoskonalona staraniem Tyzenhauza.

S. 36:

*Była to trybunalska wokanda...*

Wokanda, wąska, podługowata książeczka, na której spisywano nazwiska stron procesujących wedle porządku aktoratów. Każdy adwokat i woźny musiał mieć takową wokandę.

S. 38:

*Rzucił w oczy Francuzów sto krwawych [sztandarów.*

Jenerał Kniaziewicz, wysłany przez armią włoską, złożył Dyrektoriatowi zdobyte chorągwie.

*S. 38:*

*Jak Jabłonowski zabiegł, aż kędy pieprz rośnie.*

Książę Jabłonowski, dowodzący Legią Naddunajską, umarł w Saint Domingo, i cała prawie Legia tam zginęła. W emigracji jest kilku weteranów pozostałych z owej nieszczęsnej wyprawy, między innymi jenerał Małachowski.

II

*S. 51:*

*I w organ i w rozliczne instrumenty grała.*

W dawnych zamkach stawiano na chórach organ.

*S. 53:*

*I czarną mu polewkę do stołu podano.*

Czarna polewka, podana u stołu paniczowi starającemu się o rękę panny, oznaczała rekuzę.

*S. 60:*

*Lub z wicin bierze ziarna w najlepszym gatunku.*

Wiciny są to wielkie statki na Niemnie, którymi Litwini prowadzą handel z Prusami, spławiając zboża i biorąc w zamian za nie towary kolonialne.

